# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

ЦАНА
15
КАП.



**N 11**



КАМЕНАЦЁС

фото Ул. СЕМЯНЯКІ.

# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ на 1930 г.

НА ШТОМЕСЯЧНЫ
ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДЗКА-ПОЛІТЫЧНЫ ЧАСОПІС

# МАЛАДНЯК

**8-мы ГОД ВЫД НЬНЯ**

**ОРГАН БЕЛАРУСКАЙ АСОЦЫЯЦЫІ ПРОЛЕТАРСКІХ ПІСЬМЕНЬНІКАЎ**

| | |
|---|---|
| **„МАЛАДНЯК“** | зьяўляецца баявым часопісам у змаганьні за пролетарскую літаратуру |
| **„МАЛАДНЯК“** | на сваіх старонках будзе і надалей рашуча праводзіць цьвёрдую пролетарскую лінію ў галіне літаратуры, рашуча змагацца са ўсялякімі хістаньнямі і ўхіламі, са шкоднымі тэндэнцыямі і варожымі праявамі ў літаратуры |
| **„МАЛАДНЯК“** | будзе даваць аддзел сатыры і гумару (шаржы, пародыі, літаратурныя гумарэскі і фэльетоны) |
| **„МАЛАДНЯК“** | у 1930 годзе дасьць сваім падпісчыкам лепшыя ўзоры пролетарскай літаратуры (романы, аповесьці, поэмы, вершы, драм. творы) |
| **„МАЛАДНЯК“** | у 1930 годзе зьмяшчае шэраг артыкулаў па пытаньнях пролетарскага мастацтва і творчых дасягненьнях беларускай пролетарскай літаратуры, а таксама літаратуры братніх рэспублік |
| **У МАЛАДНЯКУ** | будзе давацца багаты аддзел бібліографіі і хронікі культурнага жыцьця як БССР, гэтак і іншых рэспублік |

**У часопісу бяруць удзел лепшыя сілы пролетарскай літаратуры і марксыцкай крытыкі**

Кожная партыйная і комсамольская ячэйка, клюбная бібліотэка, чырвоны куток фабрыкі і заводу, нардом, хата-чытальня, школа, літгурток—**ПАВІННЫ ВЫПІСАЦЬ ЧАСОПІС „МАЛАДНЯК“** ▪ Рабочы, селянін, настаўнік, студэнт, кожны, хто цікавіцца пытаньнямі літаратуры і мастацтва, **ВЫПІСВАЙЦЕ І ЧЫТАЙЦЕ ЧАСОПІС „МАЛАДНЯК“** ▪ У 1930 годзе **ЧАСОПІС БУДЗЕ ВЫХОДЗІЦЬ РЭГУЛЯРНА КОЖНЫ МЕСЯЦ на 10 АРКУШАХ.**

## УМОВЫ ПАДПІСКІ:

| На год | На 6 м-цаў | На 3 м-ца | На 1 м-ц |
|---|---|---|---|
| 3 — | 1 60 | — 90 | — 30 |

ЦАНА Ў РОЗЬНІЧНЫМ ПРОДАЖУ **40 К.**

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:** ва ўсіх паштовых аддзяленьнях, агенцтвах, ва ўсіх кнігарнях Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва, усімі аддзяленьнямі „Правда“ і спэцыяльнымі ўпаўнаважанымі Выдавецтва „Чырвоная Зьмена“.

**ПАДПІСКУ МОЖНА ПАСЫЛАЦЬ** у Выдавецтва „Чырвоная Зьмена“ па адрасу: гор. Менск, Комсамольская, 25, або непасрэдна па адрасу рэдакцыі: г. Менск, Савецкая, 68, Дом Пісьменьніка, рэдакцыі „Маладняк“—тэл. 8-77.

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

10 чэрвеня 1930

N 11

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
МЕНСК, САВЕЦКАЯ, 63.
Тэл. 7-41

НАРЫШТАВАНЬНІ.. ФОТО УЛ. СЕМЯНЯКІ



Апавяданьне КАГАНА
Малюнкі ІЛЬГЕ



# Сэрца на вёслаў

ДРАЎЛЯНЫЯ цьвічкі, калі іх прысмажыць, яны лепш убіваюцца. Калі прысмажыць песьняй,—лепш працуецца. Хэўра-шаўцы убіваюць прысмажаныя цьвічкі ў падашву. Іншыя труць з вялікай ахвотай ваксу з абцаса і сьпяваюць сабе—хто голасна, а хто гамзае сабе пад нос прыпеўкі, якія Мэйшка Капілаў надрукаваў у насьценнай газэце колектыву. Яны прысьвечаны жаночаму дню. Цалкам яны пра жанчын.

...І мужчыны і жанчыны—
Усе яны „мэншун“ [1]),
І жанчыны, як мужчыны,
Толькі нумар меншы.
Ўсе краўцы
І ўсе шаўцы—
Маюць сабе жонак.
Хто-ж ня мае,
Хай сьпяшае,
А ня то, дык празявае.

Апошнія словы „Агіткі“ глыбока заселі ў вушшу Гэнаха Пачуры. Гэнах Пачура—шавец, як і ўсе, але жонкі ён ня мае. А думаць ду[illegible]а ён, што жонку трэба такі мець.



Чаравікі каштуюць 12 рублёў. Колькі каштуе адзін чаравік? Драўлянага цьвічка ня варты. Трэба мець пару. Вось, нарэшце, Пачура пачаў такі выглядаць сабе дзяўчыну.

Майстар першы гэта заўважыў і парадзіў яму:

— Жонку,—кажа ён,—цяперашнім часам трэба браць таўсьцейшую, на пару нумараў больш, каб хапіла на адбыцьцё, бо калі загадзя возьмеш цесны чаравік, ён цісьне.

Пачура апошнім часам стаў усё больш падобным на маладога. Вочы набылі якісьці глянц, нібыта іх наваксавалі шчоткаю, а валасы на галаве былі прычэсаны з праборам пасярэдзіне.

Пачура доўга ня выбіраў. Сташка, прыбіральніца, даволі круглая дзяўчына. Дык ён вытлумачыў ёй сваё каханьне вельмі проста:

— Слухай, Сташка, ёсьць у цябе каханак?

— Так, — пахвалілася Сташка.

— Каханка ты маеш?.. Трасцу ты маеш. Давай лепш, Сташка, пройдземся ў ЗАГС.

..Ён ходзіць з ёй у сад шпацыраваць і трымае яе шчыльна пад руку...

[1]) Людзі.

І гэтак далей і гэтак далей... Пачура слова áбцугамі ня цягне. У майстэрні адразу дазналіся пра новую пару. Мэйшка Капілаў рыхтаваў прыпеўкі ў насьценную газэту.

Усе пасьміхаюцца з Пачуры, але Пачура сьмяецца з усіх.

Ён ходзіць з ёю ў сад шпацыраваць, і трымае яе шчыльна пад руку. Яны ідуць і глядзяць на месяц, а Пачура любуецца.

— Ах, які прыгожы месяц сёньня...

А месяц-такі прыгожы і выглядае маладухай. Чырвоны і поўны, як Сташка. Яны захапіліся гамонкай—і не заўважылі нават, як чорныя хмары абвалаклі і ахінулі маладуху-месяц чорнай вянчальнай посьцілкай (па-старому звычаю, бо бог на небе не жадае ведаць пра новае!).

Яны засталіся сядзець на лаўцы. Пачура ўжо ўсё выгаварыў і ня ведаў аб чым гаварыць далей, але-ж нешта няпрыемна сядзець моўчкі. Вось праходзяць каля іх пары і ўвесь час гамоняць. У іх здаецца, ніколі ня спыніцца гутарка. Пачура прыпамінае пра месяц.

— Ой, Сташка, што за месяц сёньня. Сташка паглядзела на неба, і прахожыя, якія чулі гэта, таксама. Густыя хмары на небе. Зьнік месяц. Прахожыя акінулі Пачуру зьдзіўленым поглядам і пайшлі далей.

А Сташка і на гэта не зьвярнула ўвагі...

## Сэрца Пачуры мае вёслы.

Раней чым Сташка стала жонкай Пачуры, ён, бывала, пасьля работы прыстане да яе і ўшчыкне за бок. Яна голасна іржэ: „гм... сьмех мне праз гэта“.

Цяпер-жа толькі падыйдзе ён да яе—Сташка пачынае енчыць... Чаго яна хоча, Сташка.

— Яна хоча схадзіць да маткі.

— Дык, хто яе ня пускае?

Сташка ўжо даўно пачала дуцца. Яна енчыць, што нельга ёй пайсьці да маткі, нельга ў вочы паказацца...

Матка Сташкі ў сінагозе перад усімі жанчынамі малітвы чытае. Ды ня было з чаго жыць, і аддала яна Сташку на работу. Але цяпер, калі Сташка „запісалася“, а ня выйшла замуж, дык наказала яна праз суседку:

— Скажэце ёй, калі яе прахвост не кісламолец, дык можа з ёю жаніцца. А да вянца, дык і глядзець на яе не хачу... Я не якая-небудзь Двошэ-Ента, каб маўчаць на гэта.

Сташка любіла сваю матку нейкім асаблівым цялячым каханьнем, як цялё, што ўсім захапляецца, але павінна адчуваць матку пры сабе...

А каб вянчацца, дык Сташка ніяк не магла дастукацца. Бо ў Пачуры бывае, што раптам ён стане каменем на сваім (гэта бывае вельмі рэдка), і калі скажа слова, дык ня хоча адступіцца...

Так было і з вянчаньнем.

Ён не хацеў ставіць хупэ[2]). Сьмяяцца-ж будуць... Шавецкі колектыў... насьценгазэта.

[2]) Паводле яўрэйскіх рэлігійных абрадаў бяруць шлюб пад прыкрыцьцём спэцыяльнага балдахіну, які называецца „хупэ“.

Але быў Пачура, як падэшва. Сьпярша цьвёрды, а варта яго толькі намачыць, і ён гнецца... Пасьля вясельля ён заўсёды быў намочаны і ляжаў у Сташкіных руках...

Пачураў бацька, Файва Пэнхэр, быў чалавек разбойнік. Біў, бывала, на чым сьвет стаіць.

Гэнах мусіў дакладна выконваць яго загады і капрызы...

Так вырас ён бяз уласнай волі. І, ня маючы волі, два вёслы кіравалі яго вадзяным сэрцам. Адным вяслом грэб шавецкі колектыў (з насьценгазэтай), а другім бацька яго і Сташка...

Часамі ён зайздросьціў сваім таварашом-шаўцам—комсамольцам і ў іх мотор у сэрцы, які працуе роўнаважна і грабе хутка. А ў яго два вяслы. І на адным—бацька ды Сташка...

Цяжарная Сташка,—у апошніх месяцах,—пайшла цяпер у адпачынак, яна не дае яго сэрцу на вёслах з плыньню плысьці.

Сташка цяпер завяла з ім гутарку:

— Калі народзіць хлапца, дык яна напэўна зробіць яму абразаньне і хрэзьбіны, гэтага яна ўжо не прапусьціць.

Калі Пачура адважыўся сказаць, што ня пусьціць рабіць хрэзьбіны, дык Сташка казала рашуча:

— Дык я зусім ня буду раджаць...

Пасьля вялікай паузы ён здагадваўся:

— Сташка, мо' ты яшчэ зусім родзіш дачку?..

Сташка выцерла сьлёзы на вачох.

— Ну, сапраўды.

Пачура задумаўся.

„Добра мець хлапца. Але столькі круцяніны будзе. Не! Лепш ужо дачку. Лепш ужо ніхай не на мерку. На нумар менш—і ёсьць дачка".

У той вечар, калі Сташцы трэ' было раджаць, Пачура ўцёк з дому. Ён ненавідзіць гэтых баб, што круцяцца туды і сюды і лічаць сябе сваімі ў яго хаце.

Ён сядзеў у клюбе, гуляў у даміно і думаў: што за Пачурчык там ужо народзіцца—сын ці дачка?

Каб ведаў гэта Пачура раней, што Сташка вэрлаху наробіць, дык ён-бы нават не дапусьціў да таго, і заказ-бы нават не рабіў... Але цяпер прапала...

І, вярнуўшыся дадому, рашуча адчыніў дзьверы і рашуча запытаўся:

— Сын ні дачка?

— Сын,—як бомбай разарвалася над яго вухам.

Радзіла ляльку-хлопчыка. Хлопчыка з двумя шчочкамі.

Сташка пачала налягаць на сваё вясло... і Сташкіна вясло пакіравала Пачурына сэрца. Ён папускаўся, бо ня мог супярэчыць. Зрабілі яны нараду і парашылі:—заўтра, у аўторак, зрабіць гулянку для колектыву, а пасьля сакрэтам—абразаньне.

## Весела і жыва п'ём мы піва

У Пачуры сёньня весела. Хэўра шаўцоў ня можа не весяліцца. Душа—тут адна. Многаногая душа. Драўлянымі цьвічкамі кутая. Шавецкая. І яна трапетна-рухомая—ваксай памазана. Толькі адзін тут не шавец, Ноях Бандура, — што грае на скрыпцы.

Здаецца, цягне смык ён ня цяжка, а твар крывіць дужа цяжка. Ён цягне смыкам многаногую шавецкую душу—нялёгкая праца; і гэта адзіная душа сьпявае на розныя галасы і кожны голас мае свой колер, а кожны колер—свой глянц.

Хэўра-шаўцы, крычаць сьпяваюць:

Адна пляшка піва—дзьве пляшкі піва,
Трры пляшкі, пляшкі п-і-і-і-ва.
Весела й жыва п-ём мы піва.

Сашка—прадстаўнік культкому прадыхтаваў вяліз рную прамову аб новым быце, аб маленькім Пачурчыку і інш., і інш. Ён хацеў сказаць, што Пачура зрабіў найвялікшую справу, прывёўшы на сьвет новага змагара. Але галава, напэўна, тоненькімі голачкамі на дробныя дзірачкі паколата. Усе думкі выскачылі.

Бандура граў, Мэйшка Капі аў сьпяваў спэцыяльна напісаныя прыпеўкі, прысьвечаныя маленькаму Пачурчыку з вялікай галавой:

Ах, Пачура, ой, Пачура,
Чура, Чура, Чура-ра,
Паказаў ты, брат, адвагу,
Так зрабіўшы без развагі.
Ах, Пачура, ой, Пачура,
Чура, Чура, Чура-ра...

— Скажэце ёй,—калі яе прахвост не кісламолец, дык можа ён з ёй жаніцца.



... Пачура пхае ў руку Сташцы пад хупэ срэбны паўрубель і бурчыць: „ня згубі толькі"...

Толькі Пачуру трогалі іншыя думкі...

У галаве яго паўстаюць цьмяныя вобразы абразаньня.

І таму што Бандура музыка і да таго сваяк яму, дык падышоў ён да яго і шапнуў на вуха.

Бандура расплавіў твар ва ўхмылку і сказаў пад нос.

— Прыду... а як-жа.

Бандура грае і загадвае весяліцца. Бо ў нашыя часы,—кажа ён,—не прывядзем хлапца кожныя два тыдні. Гэта мо' будзе тады, калі продукцыя падымецца...

Сташка мела матку, а матка мела брата—рабіна. Дык вось гэтага дзядзьку Сташка прышла прасіць на „брыс"[1]) Сташка ўвайшла ў хату. У рабіна былі два хлапцы, якія, як кажуць, прыйшлі вучыцца, але пакуль-што біліся. рабін стаяў убаку і, напэўна, думаў пра вядомую пэдагочічную ісьціну: „у мяне, дзеткі, моцы няма біць вас, а варты вы гэтага—варты—дык біце-ж адзін аднаго".

Сташка паціху расказала яму пра свой „прыбытак" і запрасіла на сьвята з прычыны абразаньня.

Рабін нагойстрыў хітрыя маленькія вочкі:

— А на вясельле вы мяне клікалі?

І бедная Сташка зноў пачала расказваць гісторыю спачатку: так вось і так, што вясельля ня было. Што ён, муж яе, каб ён здаровы быў, упіраўся, хоць ён і не комсамолец...

Рабін напхаў табакі ў нос і нацягнуў паміж вусоў шнурок старой трухлявай ухмылкай.

— Як хочаш зрабіць абразаньне, дык рабі і вясельле, але калі вясельле не, дык нашто-ж абразаньне? Хоча ён абразаньне, дык захоча і вясельле.

Сташка слухала і маўчала. Зноў круцяніна. Яна сказала толькі рабіну, што Пачура не паслухае, ня згодзіцца. Рабін усьміхнуўся трохпавярховай самаздавольнай усьмешкай. Трохпавярховай таму, што ва ўсьмешцы рот быў падобны на лічбу 3, а па-другое, у вачох яго адбіваліся яшчэ два чалавечкі з усьмешкай.

— Гэтае ўжо спадзявайся на мяне. Я ўжо скажу... Могэлу[2])... Гм... што раней за васельле абразаньня ня зробяць.

І так ён застаўся ў застыўшай усьмешцы. Пасьля рабін так сказаў Сташцы:

— Я прыду да вас, чаму-ж мне ня прыйсьці, напэўна я прыду... І да таго... вы-ж мяне не пакрыўдзіце?..—Ён голасна за-

[1]) Абрад абразаньня.
[2]) Могэл—духоўнае званьне чалавека, што робіць процэс абразаньня.

сьмяяўся, усунуў рукі ў кішэні і так страсянуў іх, што і кішэні засьмяяліся...

Сташка ад няпрыемнасьці адвярнула галаву і ўсунула яму монэту ў руку.

---

Позна спаў на заўтра Сашка-культкомавец. Але прачнуцца ён мусіў, бо прамені сонца калолі, нібы сьвіное шчаціньне. Апрануўшыся, ён прыпомніў, што прамову свою ня выказаў. З вялікай радасьці забыўся... Так... З радасьці забыўся на ўсё.

А што яшчэ забыліся? Так. Падарункі забыліся прынесьці, падарункі маладому Пачурчыку.

Каля варштату Сашка перагаварыўся з шаўцамі і парашылі, што падарункі—гэта табе не тэрміновы заказ. Ня спозьнішся ніколі. Можна яшчэ і сёньня прынесьці, што трэба. Падарунак прыдумалі дужа добры і прыгожы (і не дарагі). Парашылі падарыць яму, маленькаму Пачурчыку, кніжачку з надпісамі, што ён член саматужнага таварыства. У шаўца жалезныя цьвічкі ня губляюцца. Магнэсам сабіраюць іх. Да чаго гэта я кажу. А да таго, што прамова не прападае.

Сашка яшчэ выскажа сваю прамову.

## Абразаньне—вясельле—развод.

І калі рабін з моэлам прыйшлі, дык быў ужо міньён [1]).

Пачура зараз-жа паднёс дзіцё да моэла.

— Рэбе, рэжце.

Але рабін не сьпяшаўся. Ён шаптаўся з моэлам.

— Чаго вы сьпяшаецеся, малады чалавек?.. Мазолтов вам: б агаславёны бэн-зохэрам [2])—здароў няхай гадуецца?—Ён робіць хітрую міну.—Пасьля каторага месяца гэта? Даўно ўжо ў вас было вясельле? Будзьце ласкавы, паказаць мне ксубу [3]).

— Ксубу, якую ксубу, рэбэ? Гэта-ж не вясельле. Тут-жа трэба рэзаць, абразаньне рабіць...

— Але..—круціць рабін сваю хітрую ухмылку.—Мы мусім ведаць аб вясельлі. Гэта датычыцца справы.

— Прычым тут адно і другое?—кажа Пачура.—Гэта так падыходзіць адно да аднаго, як поўныя ранты да дзіцячых чаравікаў, як драўляныя абцасы да лапцей.

Пачура-б яшчэ шмат чаго нагаварыў. Бо наш гармідар шаўцоў, як чаравік—пачне ён прамакаць, дык прамакае і прамакае...

Але рабін моцна чхнуў. Цэлы слуп табакі выляцеў з яго носу, і пах яе дабраўся аж да Пачурынага носу. Пачура крыху замяшаўся. Рабін буркнуў моэлу на вуха і вынес прысуд: „без вясельля абразаньне рабіць нельга“.

Пачура ўсё ня мог зразумець, прычым тут адно і другое. Ён пачаў настойваць.

— Рэбэ, загадваюць вам рэзаць—рэжце. Ня ваша справа. Ня вам цісьне чаравік...

Ціха... Чутно толькі, як Сташка плача. Бо яна, Сташка, згодна хоць у адну хвіліну, ёй нічога, што насьценгазэта будзе пісаць.

Пачура стаяў з закамянелым тварам.

„Драўляны цьвічок,—думаў ён,—убіваюць двума ўдарамі—раней слабейшы, пасьля мацнейшы“. З ім гэтак-жа здарылася—два ўдары. І другі, цяперашні—яшчэ мацнейшы. Удары трапілі ў сэрца. Пачура заплыў у сярэдзіну мора з сваімі вёсламі і цяпер ня ведае, куды накіравацца.

Вецер прабег у сэрцы. І сэрца, засьцёбанае ветрам, калыхалася, бурліла. Здарылася гэта раптам. І Пачура парыўчата крыкнуў:

— Рэбэ, стаўце кіі, толькі хутчэй...

Бандура таксама тут з сваім хлапцом. Ён шле яго ў сінагогу па хупэ, а сам усьміхаецца.

Прынесьлі з сінагогі кіі, Пачуру ўвапхнулі пад хупэ. А рабін адказвае: „гарэй... ат“. [1]) Пачура ўпіхае ў руку Сташцы пад хупэ срэбны паўрубель і бурчыць: „ня згубі толькі“.

— Есьць папсаваныя талеркі. Біце! Ламіце! Чуцен талерачны енк. Пабітыя талеркі. Але што там стукае?...

. . . . . . . . . . .

Гэта дзьверы стукнулі. Сашка з дэлегацыяй тут. Кніжачка ў руцэ і прамова на языку. Пачуру нібыта талькам пасыпалі. Пауза. Рабін і моэл выглядаюць, як бычкі перад рэзаньнем. Яны адчуваюць сябе зусім лішнімі, і, здаецца, моэл хоча ўперці свае вочы ў футляр ад абразальнага нажа.

Сташка накіравала свае вочы на пупок малога Пачурчыка і, апрача яго, яна нічога ня бачыла.

А Пачура? Ён зусім апусьціў вочы і, як цьвікі, убіў іх у дол.

Вялізны вецер прынёс з сабой Сашка.

Вялізны віхор убіўся ў Пачурына сэрца і зусім расшаматаў вёслы.

Першы адчыніў рот Сашка. Ён паказаў язык, але з яго не саскочыла прыгатаваная прамова. Сьпярша язык заставаўся тырчэць у адкрытым роце, скручаны, і падобны да чырвонага пытальніка. Пасьля ён выцягнуўся клічнікам і зусім іншая прамова паплыла з Сашкінага роту.



... Першы адчыніў рот Сашка...

Ён ні на кога не глядзеў і гаварыў парыўчата. Гаварыў пра мяшчанства, пра стары быт і аб тым, што, як відаць, Пачура „шкодны элемэнт“ і супроць такіх трэба змагацца.

Пачура пакуль-што трохі ачухаўся. Ён адчуў сваё бясьсільле і неабходнасьць за што-небудзь ухапіцца.

Пачура пачаў нема крычаць:

— Гэта яна вінавата, Сташка... Я не хацеў рабіць абразаньне!.. Яна!.. Яна сілком зрабіла!..

Ён яшчэ больш раскрычаўся. У голасе чулася немая злосьць:

— Яна!.. Яна!., Усё яна! Я не хачу, таварыш Сашка!.. Я не хачу з ёю жыць!.. кіну я яе, я не магу з ёю жыць!..

Але Сашка і ня чуў. Ён настойваў, што вінаваты Пачура, што капыл укладаецца ў чаравік, а не чаравік у капыл. Сташка—гэта капыл, несьвядомы элемэнт.

А Пачура яшчэ мацней роў:

— Не, не, я не жадаю! Я адмаўляюся ад яе!

А Сашка груба, цьвёрда абсыпаў яго словамі:

— Ты вінен, ты ты!

Няма вёслаў у Пачурыным сэрцы. Сэрца бяз вёслаў—б'ецца яно аб каменны бераг, ці ведае яно дзе прыстане?

Пачура напружана падбег да рабіна:

— Рэбэ, слухайце рэбэ, пішэце скарэй развод.

Бандура качаўся ў рогаце:

— Абразаньне... вясельле... развод...

Рабін моршчыўся:

— Будзьце ласкавы, давайце кончым вянчаньне.

— Пасьля,—крычыць Пачура,—пішэце раней развод!

---

[1]) Міньён—мінімальная колькасьць людзей, пры якой пачынаюць малітву—10 асоб.

[2]) Прывітаньне вам благаслаўленым сынам.

[3]) Ксуба—дакумант запісу акту. Пішацца рабінам.

[1]) Першыя словы, якія малады гаворыць да маладой пад вянцом. Пры гэтых словах малады надзяе маладой вянчальны пярсьцёнак або дае ёй срэбную манэту.

# ПРА ЧОРНУЮ КРОЎ

## НАРЫС С. АЎСКАГА

КАЛІ ангельскія джэнтльмэны ўчыняюць бандыцкі наскок на Савецкае гандлёвае прадстаўніцтва ў Лендоне,—

калі ва Францыі ўзьнімаецца вялізарны гармідар за разрыў дыплёматычных зносін СССР,—

калі папа Рымскі выступае ў абарону царквы ў СССР і заклікае да крыжавога паходу супроць першае ў сьвеце Рэспублікі рабочых і сялян,—

— пахне нафтай.

На нафце ходзяць падводныя лодкі;
самыя хуткія ваенныя судны апальваюцца нафтай;
экспрэсы і хуткія пасажырскія лініі карыстаюцца нафтавым апалам;
аўтомобілі, трактары, танкі—спажываюць нафту;
бяз бэнзыны аэропляны лятаць ня будуць.

Хто трымае ў сваіх руках нафту, той уладае ўсім сьветам.

СССР мае багата нафты.

СССР можа свае ўмовы дыктаваць усяму сьвету.

І вось чаму ніводная антысавецкая авантура не абыходзіцца бяз удзелу нафтавых каралёў. Ва ўсім сьвеце нясьціхана вядзецца барацьба паміж двума сусьветнымі волатамі нафтавікамі: амэрыканскай компаніяй—„Стандарт Ойль“ і ангельскай компаніяй „Рояль Дойч Шэл“.

У самы люты момант барацьбы паміж гэтымі двума драпежнікамі, на сусьветны нафтавы рынак зьявіўся СССР. Ішоў 1921 год і нашыя першыя параходы з нафтавымі продуктамі прышлі ў Констанцінопаль. Першы наліўны параход, добраякаснай і дарагой бакінскай алівы, быў адразу закуплены францускай компаніяй. Гэты продаж зрабіў вялізарны перапуд. Капіталістычныя нафтавыя волаты зразумелі, што гэтым фактам нанесены моцны ўдар па іх нафтавай монополіі.

Адразу італьянцы купілі наступную партыю нафты, якой у нас яшчэ нават і ў Батуме ня было, а затым пачалі купляць францускія, турэцкія і грэцкія таварыствы. Грошы плацілі ўперад, ня бачачы тавару, тэрміны пастаўкі даваліся на 6 і 8 месяцаў,—сусьветны рынак згаладаваўся па савецкай нафце.

Тав. Ленін быў увесь час у курсе гэтай справы, бо ўсё гэта пачалося з яго ведама і па яго ўказаньні. Ён быў у захапленьні ад першага продажу нафты заграніцу і рашуча раіў прасоўваць нафту ў Эўропу, карыстаючыся барацьбой між амэрыканскім і ангельскім нафтавымі трэстамі. Уладзімер Ільліч добра разумеў, што і амэрыканцы і ангельцы хочуць мець нашу нафту кожны для сябе, і параіў:

— А вы іх як сьлед раздражнеце, а потым контрактуйцеся... толькі не з ангельцамі, не, не з ангельцамі!

Гэтак і было зроблена. Калі „Стандарт Ойль“ пачаў гаварыць аб тым, што ўжо час нам спыніць псаваць яму рынак, мы згадзіліся на перамовы і пачалі пакрысе прадаваць яму нафту. Вынікі ад гэтае справы атрымаліся ня толькі комэрцыйныя, але і тэхнічныя,—наш дагавор на продаж кончыўся першым у СССР дагаворам аб тэхнічнай дапамозе. Ужо праз нейкі час інтэрнацыянальная Барыздольфская кампанія—аддзяленьне амэрыканскага „Стандарту“, узяла ў нас у Баку першыя падрады на сьвідраваньне шчылін, прывезла першае амэрыканскае абсталяваньне і першых амэрыканскіх інжынэраў.

Дагэтуль мы фактычна не маглі здабываць нафту, а калі здабывалі, дык гэтак па-драпежніцку, што самыя каштоўныя элемэнты нафты выветрываліся і псаваліся, яшчэ ня ўбачыўшы сьвету. Старыя прамыслоўцы думалі выключна аб тым, каб выкачаць як мага больш нафты і зусім ня думалі пра будучыню. Выведка вялася самым дапатопным спосабам, нафтаносныя плошчы не вывучаліся, не дасьледваліся; за выключэньнем двух-трох буйных фірм, нідзе не вялося ніякіх геолёгічных вышукаў. Тэхніка была на самым нізкім узроўні. Працавалі старымі паравымі машынамі, пару атрымлівалі ад самых дапатопных ланкашырскіх паравых катлоў, нафту здабывалі старой дагістарычнай жалонкай,—доўгага вядра, падвешанага да канату. Канат накручваўся на так званы „барабан“, а самы спосаб здабываньня нафты называецца „тартаньнем“—цюркскае слова, якое азначае: выцягваць.

Але раней, чымся здабываць нафту з шчылін, трэба было кожны раз такую шчыліну або вузкую студню сьвідраваць у зямлі. Для сьвідраваньня шчылін ужываліся прымітыўныя штангавыя, буравыя варштаты, якія працавалі надзвычайна марудна—адну шчыліну сьвідравалі паўтара гады, таму работа абыходзілася надзвычайна дорага.

Сьценкі шчылін замацоўваліся жалезнымі трубамі, якія ўстаўляліся адна ў адну так, што часам увахodзіла 18 і больш колен труб. Каб зрабіць столькі труб, трэба было мець вялізарную



**Першая нафтаперагонная трубчатка пабудаваная цалкам савецкімі сіламі. Будоўля пачалася ў 1929 годзе і сёлета 15-га сакавіка пачала працаваць. Прапускная здольнасьць—1000 тон нафты ў дзень.**

колькасьць ліставога жалеза. Такім чынам,—замацаваньне шчыліны каштавала вельмі шмат.

Нафта, якая гралонкай вымалася з шчыліны, апрача свайго дарагога кошту выветрывалася і выпаралася і таму траціла самыя лёгкія і лепшыя свае складаныя часткі—бэнзыну, якая вельмі дарагая і складае самую каштоўную частку сырой нафты. Нафта, здабытая з зямлі, хавалася ў вялікіх адкрытых ямах і там зусім выветрывалася, так што ў даваенны час здабывалася толькі палова процанту бэнзыны, у той час, як зараз мы здабываем 7 процантаў. Цяжкая спадчына дасталася нам ад старых прамыслоўцаў. У 1920 г., калі Баку, разам з усёй Азарбайджанскай рэспублікай, далучыўся да Савецкага саюзу, у нас ва ўсім СССР быў вялізарны голад на нафту і газу. У вёсцы газы зусім ня было, аўтомобілі хадзілі на сьпірце, чыгункі і параходы ня мелі мазуту. Трэба было ў першую чаргу забясьпечыць краіну нафтапродуктамі. Становішча было катастрофічнае, трэба было пусьціць усе промыслы, а мы ня мелі ні абсталяваньня, ні машын, ні харчоў, ні вопраткі.

Тады мы і пачалі латаць. Хоць абы як, хоць латаць, але накарміць краіну, зьменшыць голад—мець магчымасьць вывезьці першы налiўны параход нафты, каб на атрыманую валюту закупіць замежнае абсталяваньне для промыслаў.

Першы запродаж даў нам амэрыканскую тэхнічную дапамогу і абсталяваньне. Але гэтым мы не маглі задаволіцца. Мы паслалі ў Амэрыку сваіх інжынэраў, каб навучыць іх амэрыканскім спосабам работы, каб яны на месцы выбралі і закупілі патрэбнае абсталяваньне.

Першы наш інжынэр, які паехаў у Амэрыку, хутка прыслаў адтуль ліст, што прогрэс нафтавай справы ў Амэрыцы такі вялікі, што ў нас трэба ўсё перавярнуць, і рэарганізаваць, бо інакш мы будзем марна гроны траціць і блытацца на адным месцы.

Гэта было часткова верна: хоць мы ўсё рабілі, што маглі, ставілі новыя вежы, павялічвалі здабычу, але нафта нам абы-

ходзілася надзвычайна дорага і мы марудным тэмпам пасоўваліся наперад.

Інжынэры Барыздольскай компаніі адкрыта сьмяяліся з нашых спроб, але ўсё-ж-ткі дапамагалі нам. Яны паставілі ў сябе падвойныя брыгады рабочых, каб навучыць іх для нас, далі нам адзін або два комплекты свайго абсталяваньня і шмат дапамагалі сваімі парадамі і указаньнямі.

Мы тады зразумелі, што бяз грунтоўнай перабудовы нашай нафтавай прамысловасьці мы амэрыканцаў не дагонім і таму яшчэ больш шчыльнае супрацоўніцтва завязалі з імі. У інтарэсы амэрыканскага трэсту—„Стандарт Ойль“, таксама ўваходзіла разьвіцьцё нафтавай прамысловасьці Баку, бо яны куплялі нашу газу і бэнзыну і спадзяваліся ў далейшым яшчэ больш купляць. Гэты фактар меў вялізарнае значэньне ў барацьбе амэрыканскіх нафтавікоў з ангельскімі. „Стандарту“ зручней было ў Эгіпце, на Бліжэйшым Усходзе і нават у Індыі, гандляваць нашым таварам, які ён браў у нас у Батуме па той самай цане, якая была ў партох Мэксыканскай затокі, бо такім чынам „Стандарт“ выгадаваў на фрахце. Ад Батуму да Константынопалю ці да Каіру ў некалькі разоў бліжэй, чым ад Гэльвэстону ці іншых амэрыканскіх партоў. Вось чаму „Стандарту“ было вельмі выгадна заключыць з намі блёк, і ён, сапраўды, бяз усякага абману дапамагаў нам вывучаць пастаноўку амэрыканскай нафтавай справы, як у канторах, так і на заводах і на промыслах.

Мы пераканаліся, што гэтая справа патрабуе дасканалага вывучэньня і дасьледваньня, што нам абавязкова трэба сваіх рабочых і інжынэраў пасляць у Амэрыку, каб яны там маглі практыкавацца. Аказалася, што гэта ня зусім цяжкая рэч. Фірмы, якія пастаўляюць абсталяваньне для нафтавых промыслаў, чакалі ад нас вялікіх заказаў, і яны бязумоўна іх атрымалі. Валюты нам ня трэба было, бо грошы атрымліваліся ад продажу нафтапрадуктаў таму-ж самому „Стандарту“ ці яго яўным, ці тайным прадстаўніком. Рабочых разьмясьціць ня цяжка было, горш было з інжынэрамі. Першая група інжынэраў прыехала, але працаваць у якасьці рабочых яны не хацелі, амэрыканцы-ж не разумелі, як можна вывучыць справу, гуляючы па заводу ці промыслу, заклаўшы рукі ў кішэні.

Усё-ж нашы інжынэры добра вывучылі працэс работы промыслаў, а таксама працэс вырабу машын на заводах, так што машыны, як прыбылі ў Баку, былі ў поўным парадку пастаўлены на промыслах.

Ідэя „амэрыканізацыі“ была вельмі популярна ў Баку. Шырокая грамадзкасьць хутка зразумела патрэбнасьць безадкладнай перабудовы нафтавых промыслаў. Амэрыканізацыя і рацыяналізацыя ішлі поруч з аднаўленьнем і пашырэньнем промыслаў і яны, такім чынам, не адбіліся на скарачэньні рабочых. Вялізарны рост вытворчасьці ўбіраў рабочых, якія вызваляліся ад увядзеньня рацыянальных мэтодаў работы, а таму ніякага нездавальненьня ня было. Варштаты і машыны, прывезеныя з Амэрыкі, былі ўсе адразу пушчаны ў работу, і на іх працавалі падвойныя комплекты брыгад, каб падрыхтаваць кваліфікаваных рабочых.

Прыбыло з Амэрыкі абсталяваньне і для мэханічных заводаў, на якіх нашы заводы ў Баку пачалі выбляць варштаты і помпы, каб больш не залежаць ад заграніцы. Гэтыя заводы былі пушчаны ў ход і ўвабралі ў свае сьцены вялікую колькасьць рабочых, якія вызваляліся пасьля рацыяналізацыі промыслаў і сьвідравальных працэсаў работы.

Паступова пачаў ажыцьцяўляцца наш плян рэорганізацыі, зьменены адпаведна з амэрыканскай рэчаіснасьцю.

Перш за ўсё мы належным чынам наладзілі геолёгічную выведку. Шырокай і грунтоўнай выведкай былі выяўлены нашы



Нафтаналіўныя судны ў Баку.



**Нафтавыя вышкі ў Бібі-Эйбаце, каля Баку, на беразе мора. Каб павялічыць плошчу здабычы нафты, бухта Ільліча засыпаецца зямлёю.**

нафтавыя раёны, і мы былі пераконаны, што маем надзвычайна багатыя, зусім яшчэ некранутыя запасы нафты ў Сураханах, на Бібі-Эйбацкай бухце, у новых раёнах і г. д. Мы наладзілі нашы Бакінскія машынабудаўнічыя заводы, абсталяваўшы іх варштатамі, высланымі з Амэрыкі. Такім чынам, больш ня трэба было купляць абсталяваньне ў Амэрыцы. Мы пабудавалі два новыя асноўныя заводы: адзін для вырабу сьвідравальных помпаў і сьвідравальнага абсталяваньня, другі для вырабу толькі глыбокіх помпаў. Старыя нашыя майстэрні мы цэнтралізавалі і спэцыялізавалі на выраб машын ці для рамонту.

Такім чынам, маючы мінімум абсталяваньня, мы здолелі забясьпечыць разгортваньне нафтавай прамысловасьці новымі машынамі, якія выраблялiся па амэрыканскіх узорах.

Маючы абсталяваньне, мы распачалі рацыяналізацыю сьвідраваньня. Мы пачалі ўжываць калаўротныя варштаты, выкінуўшы нязграбныя штангавыя. У 1913 г. калаўротных варштатаў у Баку было 20, а зараз—каля 300. У 1922 г. гэтымі варштатамі было прасьвідравана 50.485 мэтраў, а ў 1928-29 годзе—300.000 мэтраў.

Надзвычайна паменшыўся кошт бурэньня. Экономія ў выдаткаваньні жалезных труб дасягае 65 проц., а часам нават 75 проц. У пачатку рацыяналізацыі—1923-24 г., сабекошт аднаго мэтру эксплёатацыйнага сьвідраваньня складаў 365 руб., а ў 1927-28—ужо толькі 174 руб., г. зн. толькі 47,7 проц. За 4 гады мы атрымалі экономіі на сьвідраваньні 132.097.000 руб.

Востра стаяла пытаньне аб рухаючай сіле і транспарце. Мы ўзялі ўстаноўку на электромоторы, устанавіўшы адразу стандартныя тыпы бакінскіх мотораў. Мы гэта зрабілі таму, што разьлічвалі ўсю наступную эксплёатацыю весьці на помпах і компрэсорах і пускаць іх у ход электромоторамі. У 1923-24 г. усяго толькі 1245 шчылін абслугоўваліся электромоторамі, а ў 1927-28 г. ужо 2785.

Зараз мы ўжо ў гэтай справе пакінулі ззаду сваіх настаўнікаў—амэрыканцаў, бо 100 проц. машын і мэханізмаў на бакінскіх промыслах працуюць ад электромотораў. У Амэрыцы, пакуль што, пра гэта толькі марацъ. Экономічныя вынікі электрыфікацыі: замест 2 р. 69 к. кошту сілавай энэргіі на адну тону нафты, зараз сабекошт складае толькі 63 капейкі.

Каб наладзіць транспарт на промыслах, была пабудавана паравая вузкакалейка, а таксама аўтомобільны парк, больш чым на 1000 машын.

У выніку ўсяе рацыяналізацыі мы маем зьніжэньне сабекошту нафты на 50 проц., магутнасьць газавых заводаў павялічылася на 70 проц., а аліўных на 90 проц., ня лічачы новых заводаў, якія пачалі працаваць у апошні час. Па ўсіх заводах быў праведзены глыбокі адбор нафтапродуктаў, а выраб бэнзыны павялічаны ў 14 разоў: у 1913 г. выхад бэнзыны быў 0,5 проц. зараз ужо 7 проц.

Вялікая ўвага была зьвернута на будаўніцтва рабочых кватэр. Мы ўзялі за ўзор Каліфорнскія котэджы і бунгала, зьмянілі іх адпаведна з нашымі ўмовамі і пабудавалі надзвычайна ўдалыя рабочыя гарадкі. Пабудавана таксама некалькі гарадоў-садоў.

Не пазнаць цяпер Баку, як і ўсю Азэрбайджанскую ССР, якая гэтымі днямі сьвяткавала дзесяцігодзьдзе свайго існаваньня. Яшчэ зусім нядаўна містэр Нобэль—гаспадар Баку гаварыў:

— Ну, куды хамлюкам мае промыслы пусьціць, раскрадуць, паганцы, забрудзяць і кінуць!

Пролетарыят вызваленага Азэрбайджану паказаў, што як „упяршыню пасьля стагодзьдзяў працы на чужых, паднявољ-

най работы на эксплёататараў зьяўляецца магчымасьць работы на сябе" (Ленін),—ён можа паказаць сапраўды цуды тэхнікі. Мы зараз ня толькі цалкам задавальняем увесь свой уласны попыт на бэнзыну, газу, нафту, мазут, але маем магчымасьць багата нафтапродуктаў вывозіць за мяжу.

У мінулым гаспадарчым годзе больш за 500 параходаў вышлі з партоў Чорнага мора—Батуму і Новарасійску, якія даставілі ў розныя краіны Эўропы, Азіі і Афрыкі 3.000.000 тон бэнзыны, газы і мазуту. За гэтыя продукты мы атрымалі 120 мільёнаў залатых рублёў.

Цяпер ужо няма ніводнай дзяржавы, якая ў той або іншай меры, не зьяўлялася-б спажыўцом нашых нафтапродуктаў. Савецкая бэнзына, як апал для аўто і авіяцыі прабралася нават на рынкі Афрыкі і далёкай паўднёвай Амэрыкі. Цэлыя флёты некаторых краін (Францыя) ходзяць выключна на мазуце, які купляецца ў СССР.

На Ангельскім рынку асабліва распаўсюджана бэнзына, якая атрымліваецца ў выніку перагонкі грозьненскай нафты (яна мае 21 проц. бэнзыны высокай якасьці). Напрыклад, можна ўказаць, што 7 процантаў усіх аўто Лёндану ўжываюць савецкую бэнзыну. А Лёндан—гэта самае сэрца ангельскага нафтавага караля Дэтэрынга,—найбольш злоснага ворага СССР. Не дарма кажуць, што ангельскі леў ранены ў самае сэрца.

У далейшым разьвіцьці вывазу савецкіх нафтапрадуктаў буйнае значэньне мае зараз пабудаваны нафта-камбінат Грозны-Туапсэ. Ён зьяўляецца рознастайным ланцугом вытворчых элемэнтаў на адлегласьці 618 кілёмэтраў—ад грозьненскіх нафтапромыслаў да мора. Па нафтаправоду з Грознага нафта праходзіць праз Каўкаскі горны хрыбет да берагоў Чорнага мора, і тут паступае ў нафтаперагонныя заводы Таупсэ. Шлях з Грознага ў Таупсэ праз каўкаскія горы вельмі доўгі. Струмені нафты, паступіўшы ў прыёмнік нафтаправоду ў Грозным, толькі праз 10 дзён даходзяць да Туапсэ—такі падземны шлях чорнай крыві. Пад зямлёй нафта праходзіць пласты з рознымі тэмпэратурамі—ад 12 градусаў у гарачым стэпу, да нуля на ўзвышшах гор. Для таго, каб нафта ў дарозе не „застудзілася", перад выхадам з Грознага ёй робяць сваеасаблівую прышчэпку—даюць 33 проц. сьветлых дэсьцілатаў. У гэтым выглядзе мешаніна бяз ніякае шкоды можа даплыць да Туапсэ.

Большасьць рэчак, якія сустракаюцца на шляху, нафтаправод праходзіць па дну, у асобных выемках па падвойных трубах, захаваных ад шкоды. Дзевяць разоў нафтаправод сьвідруе палатно паўночна-каўкаскіх чыгунак, праходзячы пад мастамі і ў насыпах. Каля гораду Мосдок нафтаправод набліжаецца да чыгункі, і гэтак ідзе з ёй поруч амаль 400 кілёмэтраў. Ля станіцы Беларэчанскай нафтаправод уваходзіць у горныя масывы і гэтак ідзе аж да Туапсэ. Горны вучастак, адлегласьцю 100 кілёмэтраў, зьяўляецца найбольш цікавай часткай пабудовы.

У сакавіку 1928 г. у горы прыехала 15 інжынэраў і тэхнікаў. На іх была ўскладзена задача—працягнуць жалезную лінію проваду праз горны хрыбет. Трэ' было разгрызьці вельмі моцны кавалак. Па простай лініі, на 100 кілёмэтраў уперад цягнулася мясцовасьць зусім без шляхоў. Ісьці трэба была цалінай. А вясна, як знарок, здарылася халодная і позьняя. Але натхненьне работнікаў перамагло ўсе перашкоды, бо перад імі была ясная мэта: перавозка нафты па чыгунцы каштуе 11 р. за тону, а па нафтаправоду толькі 4 руб. 50 кап. Значыцца штогод можна з'эканоміць для соцыялістычнага будаўніцтва 6—7 мільёнаў рублёў.

У горы пацягнуліся сотні арбаў, запрэжаных быкамі, з нязвычайным грузам. Траншэі нафтаправоду прышлося капаць рукамі—глебавыя ўмовы тут не дазвалялі ўжываньне экскаватару. На ўсім шляху трэ' было 65 тысяч разоў злучаць асобныя зьвяны труб. Энтузіязмам бралі і перамаглі.

На ўсім шляху да Туапсэ шашэ белай вузенькай палоскай цягнецца сярод горных масываў, пакрытых багатай паўднёвай расьліннасьцю.

У першы момант вока ахапляе толькі агульныя контуры. Простая лінія новага логва ракі Таупсінкі прарэзвае тэрыторыю да берагу мора. На левым, паўднёва-ўсходнім беразе, раскіданы асноўныя корпусы нафтаперагоннага заводу і 70 вялізарных рэзэрвуараў—нафтасховішч. Поруч з імі—крыніца энэргіі, электрастанцыя Грознафты. Сярод зеляніны гор раскінуўся гарадок рабочых і служачых заводаў.

За апошнімі нафтасховішчамі, ля морскага берагу, тонкай дугой бэтону выцягнуўся далёка ў мора паўднёвы мол—да яго падыходзяць замежныя нафтаналіўныя судны.

Савецкая нафтавая прамысловасьць расьце, квітнее. Шпарка разгортваецца соцыялістычнае будаўніцтва ў СССР. Замест



**У маі м-цы пачынае працаваць новапабудаваны Крэкінг-завод сыстэмы Джэнкінса трэст „Грознефть". Кошт пабудовы—1.850.000 рублёў. Абслугоўваць завод будзе вахта ўсяго толькі з 5 чалавек.**

40.000 трактараў у 1928-29 г. мы будзем мець 914.900 трактараў у 1932-33 г. Толькі на трактары пойдзе газы ў 1932-33 г.—8.051.000 тон, замест 612 тысяч тон у 1928-29 г. Колькасьць аўтомобіляў у СССР павялічыцца ў 1932-33 г. да 500.000. Попыт на нафта-продукты надзвычайна вырасьце. Але невычарпальны запасы савецкай нафты. На дапамогу бакінскай і грозьненскай нафты сьпяшае Урал з сваімі нязьлічнымі багацьцямі нафты.

Раней над Уральскімі чусаўскімі гарадкамі пахла смалою, сьвежым лесам. Зараз тут пануе спэцыфічны пах. Мяккімі крокамі падкрадваецца тут серны газ і смалісты пах. Гэта—дыхае нафта.

Геолёгічны камітэт шукаў толькі вынайдзены калі для ўгнаеньня. Тры сотні вёрст і 19 буравых шчылін засталіся ззаду. Ззаду нікому невядомай, нікому непатрэбнай вёскі ў канцы 1928 году заклалі дваццатую шчыліну.

Тарахцеў матор, скрыгаталі буры, а стары профэсар дасьледваў яшчэ новыя і новыя кавалкі пароды, пакуль на глыбіні 350 мэтраў не натрапіў на пародзістыя вапняк.

Вапняк, як вапняк. Быў ён напоўнены вадкасьцю і толькі недзе глыбока блішчэла тлустая вільгаць.

Пра нафту ня думалі.

Але калі з шчылін пачаў біць фонтан на 5 мэтраў увышыню,—чусаўскія гарадкі зрабіліся вядомымі ўсяму сьвету.

— Нафта! Нафта!

Ды колькі ў нас яшчэ неразьведаных плошчаў, багатых нафтай? Колькі багацьцяў трымае яшчэ ў сабе савецкая зямля, пра якія мы яшчэ ня ведаем?

Факт, мы з посьпехам выконваем наказ Леніна—вызваліцца ад эканомічнай залежнасьці ад капіталістычнага сьвету, мы ня толькі вызваляемся, але ў некаторых галінах, як, напрыклад, нафта, мы трымаем капіталістычны сьвет у залежнасьці ад нас.



# З ЖЫЦЬЦЯ Ў ПАЛАТНЯНЫМ ГОРАДЗЕ

## НАРЫС СТАНІСЛАВА ІВЫ

НЕДАЛЁКА ад гораду Н на левым крутым беразе Дняпра сотні год таму назад былі заснаваны два манастыры. На працягу доўгага часу сеялі цемру сярод вакольнага сялянства агітатары за „веру хрыстову"—манахі ды манашкі. Шмат аб чым яшчэ і зараз сьведчаць манастырскія тоўстыя мураваныя сьцены, цэркаўкі, званіцы ды падзямельлі, якія не дасьледваны і да гэтага часу. Сёньня ад гэтых пратухшых рэлігійнай гнільлю цытадэляў не нясе паветрам трухляціны,—сёньня тут бурапеніць задзёрыстым шквалам жыцьцё—сёньня тут вайсковыя гарадкі, а там, крыху лявей у прыгожым сасновым пералеску, разгарнуўся палатняны горад—лягер.

Сотні гектараў самай найлепшай ворані ды сенажаці, тысячы гектараў лесу захапілі „сыны боскія" пад сваё ўладаньне. Раскапусьціўшы карані, падпарадкаваўшы пад сваё магнацтва неабсяжныя абшары зямлі, гэтым „сынам боскім" трэба была рабочая сіла і яны карысталіся ёю. На повадзе рэлігійнага дурману, на падставе веры ў бога манахі ды манашкі выкарыстоўвалі вакольнае сялянства. За тое, што манахі замольвалі грахі перад „богам", рукі „грэшнікаў" касілі, жалі, малацілі, аралі.

Што рабілася па-за сьценамі манастыроў? Мала хто ведае. За манастырскую агараду хадзілі нямногія. У гэтыя „сьвятыя" асяродзьдзі доступ селяніну быў толькі ў час фэстаў, калі наладжвалася абіралаўка працоўнага сялянства. Манахі ды манашкі бралі апошнюю капейку з беднага селяніна ды рабочага, агалялі да апошняга рубца пролетарыя. Пад заслонаю рэлігіі гэта чорная зграя, сабраўшы „боскія ахвярваньні", прапівала, наладжвала арыстократычныя банкеты, балявала, распусьнічала.

Байцы - сувязістыя, выканаўшы вельмі добра тактычнае заданьне, зьбіраліся на краі бярозавага пералеску. Байцы з задавальненьнем абменьваліся сваімі ўражаньнямі, чакаючы, 2-х команд, як да вас падышоў старэнькі дзядулька. Зараз-жа завязалася гутарка. Байцы абступілі старога. Дзед запытаў:

— Вы з манастыра, дзеткі?

— Не, дзядуня з лягеру. Хіба мы манахі?—жартуюць хлопцы.

— Так, так, манахі... Вы напэўна іх добра і ня ведаеце, а вось я...—пачаў апавядаць стары.

— Было жыцьцё—лепш і не ўспамінаць,—дзед сеў на муражы, сакоўны травяны дыван, байцы таксама прыселі.—Вось, бачыце, гэта манастыр,—ён паказаў кіем на манастыр,—колькі ў ім пагарэла на мае крывавыя мазалі васковых сьвечак. А каб хто ведаў, як я верыў у бога, з якой пашанай адносіўся да манахаў,—а зараз, як гэта ўсё проста ды зразумела... З мяне, з былога веруючага, цяпер зрабіўся ваяўнічы бязбожнік. Я ў сваёй вёсцы кірую ячэйкай бязбожнікаў. У царкве па маёй прапанове адчынілі клюб. Званы накіраваны ў кацёл індустрыялізацыі краіны.

Байцы ды камандзір роты бліжэй падселі да старога.

— Раскажы, дзядуня, пра манастыр. Што ў вашай вёсцы чутна? Дзе быў?—пасыпаліся запытаньні да старога.

— Мне ўспамінаецца і армія царская. Вось я на вас гляджу і вачом ня веру. Усе гуртам, як добрыя таварышы — тут і камандзіры і чырвонаармейцы, а раней... Вас зараз у арміі ня прымушаюць маліцца богу, вы ня ведаеце славеснас ці, вы заняты карыснай справай, а я памятаю, калі вывучаў на „зубок", як зваць цара, яго сына, дачок, жонку, матку і да сотага пакаленьня ўсю прыдворную... Ці гэта мне надта было патрэбна? Я аднаго разу адмовіўся адказаць як завуць царыцу — думаю, што за гэта мне будзе, дык сам потым ня рад быў. Пасадзілі на 10 сутак на губвахту, фэльдфэбэль даў кніжку ды сказаў—датуль будзеш сядзець, пакуль ня вывучыш. Я зараз маю 70 год, але пакуль жыць буду не забуду гэтага.

Байцы слухалі дзеда і ім здавалася, што стары вялікі майстар расказвае дзівосныя казкі. Усё тое, пра што казаў дзед, даўно канула ў беспрадоньне і зараз неяк ня верылася, што гэта было калісьці сапраўднасьцю. Між тым стары, схіліўшы гала

# XIII трынаццаты XIII

XIII зьезд бальшавікоў Беларусі, які ў чэрвені працаваў у Менску, меў багатую магчымасьць падагуліць вынікі росквіту БССР і вызначыць далейшыя шляхі соцыялістычнага росту і перамог краіны.

Хіба мінулы год—год вялікага пералому, год, які характарны, як год бясспрэчнага павароту вёскі да соцыялізму, ня — цэлая рэволюцыя?



**Тт. Аронштам, Гей, і Ягораў прыймаюць парад Чырвонай арміі.**

Услухайцеся і ўдумвайцеся ў прамовы тт. Мануільскага Гея, Васілевіча на XIII зьезьдзе КП(б)Б, хіба у іх прамовах ня гучыць пераможны марш соцыялізму на абшарах Савецкага Саюзу і Савецкай Беларусі? Лічбы, — скажаце, — сумная рэч. Дарма. Лічбы—упартая рэч. Лічбы даўбяць опортуністычны камень. Усяго толькі некалькі лічбаў, і вы ўбачыце, які велізарны скачок уперад зроблены Савецкай Беларусьсю за час з XII да XIII зьезду КП(б)Б. Калі 1928-29 год даў рост продукцыі на 45,7%, дык 1929-30 год дае рост на 77,5%. Сума ўкладаньняў у капітальнае будаўніцтва ў 1928-29 г. раўнялася 25,8 мільёна, а ў 1929-30 годзе ўжо каля 50 мільёнаў руб. На будучы год урад БССР мяркуе ўкласьці ў прамысловасьць каля 100 мільёнаў руб. Да канца году ў БССР будзе пушчана першая раённая Асінаўская электрастанцыя імя т. Сталіна. Значна вырасьлі кадры беларускага пролетарыяту,—мы маем зараз у БССР у два разы больш рабочых, чым да вайны.

Не пазнаць зараз былыя гуты і гарбарні, якія няпрыкметна былі да вайны раскіданы па гарадох і мястэчках Беларусі. Рэзка зьмянілася іх матэрыяльна-тэхнічная база, узмоцнена концэнтрацыя прамысловасьці, павысіўся яе тэхнічны ўзровень. Гэта сьведчыць аб тым, што ЦК УсеКП(б) правільна праводзіць лінію на тое, каб ускраінныя рэспублікі падцягнуць, індустрыялізаваць іх на базе соцыялістычнае рэконструкцыі і ўзмацніць іх пролетарскую базу.

Надзвычай вырасла электра-ўзброенасьць БССР і зразумела, што ў выніку гэтага павялічыцца і продукцыйнасьць працы. Народная гаспадарка БССР стала на шлях організацыі новых галін вытворчасьці і паступовай рашучай ліквідацыі залежнасьці ад імпорту. Багата продукцыі, якую раней мы прывозілі з-за мяжы, пачынаем вырабляць на сваіх уласных заводах.

Яскравы прыклад—завод „Чырвоны Мэталісты“ ў Віцебску сёлета мае плян вытворчасьці плугоў на 6.800.000 руб., з якіх раней больш паловы мы прывозілі. Гэта балотныя плугі, трактарныя плугі, зорчатыя бораны, жмыхадрабілкі, кораньрэзкі. Гомсельмаш дасьць продукцыі на 30.000.000 руб., з якой $^3/_4$ мы раней прывозілі. БССР пад кіраўніцтвам КП(б)Б. такім чынам, правільна ажыцьцяўляе пастанову XIV зьезду УсеКП(б) аб паступовым вызваленьні ад экономічнай залежнасьці ад капіталістычнага сьвету і стварэньні сваёй уласнай прамысловасьці.

Мы маем таксама тое „новае“, што характарна для пролетарыяту ўсяго Савецкага Саюзу. Шырока разгарнулася соцыялістычнае спаборніцтва у нашай краіне. Рабочыя паказваюць прыклады комуністычных адносін да працы, выяўляючы ў шэрагу прадпрыемстваў сапраўдны героізм у змаганьні за выкананьне промфінпляну, за ажыцьцяўленьне высокіх тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва. Рабочая кляса ўступіла ў соцыялістычнае спаборніцтва, каб выканаць і перавыканаць вытворчыя пляны, палепшыць якасьць продукцыі, зьнізіць сабекошт, узмацніць працоўную дысцыпліну.

Яшчэ задоўга да зьезду разгарнулася змаганьне паміж прадпрыемствамі за права рапартаваць Усебеларускаму штабу бальшавізма—XIII зьезду—аб сваіх дасягненьнях.

Сьледам за прадпрыемствамі ідуць колгасы, новыя соцыялістычныя формы земляробства, фабрыкі збожжа. Сыходзіць індывідуалістычная, кулацкая, дробнабуржуазная вёска, для таго, каб саступіць месца соцыялістычнаму агрономічнаму гораду, колгасу і саўгасу.

Мы будуем соцыялізм у вёсцы на аснове машыннай індустрыі. Трактар выціскае каня, які пераходзіць ужо на другарадныя ролі. Тут тав. Мануільскі—дакладчык ЦК УсеКП(б) на зьездзе да рэчы ўспомніў словы вядомага профэсара Зумбарта. Калі 2-х гадоў таму на адным з паседжаньняў саюзу соцыяльнай політыкі ў Цюрыху, гаворачы аб машынізацыі сельскай гаспадаркі, Зумбарт прывёў такі выпадак; калі ён езьдзіў на Усходнюю Прусію, ён бачыў мноства трактараў, якія стаялі бяз дзейства ў буйных гаспадарках і не абслугоўвалі зусім дробных гаспадарак. Тут і хаваецца адзін з слабых пунктаў капіталістычнай гаспадаркі, трактар і машынізацыя могуць быць уведзены толькі ў буйных гаспадарках і ня могуць абслугоўваць дробных гаспадарак. Дзякуючы колектывізацыі сельскае гаспадаркі, у нас гэтае становішча ліквідуецца. Імення гэта павялічвае нашу сілу ў справе будаўніцтва соцыялізму ў вёсцы.

Ленін гаварыў: „Нашай агульнай задачай, нашай агульнай мэтай зьяўляецца пераход да соцыялістычнай гаспадаркі, да колектыўнага земляробства, да грамадзянай апрацоўкі зямлі... Чым далей ідзе пэрыод будаўніцтва, тым больш ясным становіцца і для сялянства... што выхадам сапраўды моцным і набліжаючым масы сялянства да культурнага жыцьця, сапраўды ставячым іх у становішча роўнае з іншымі грамадзянамі,—гэтым выхадам зьяўляецца грамадзкая апрацоўка зямлі“. Асноўным гістарычным фактам нашага пэрыоду зьяўляецца тое, што асноўная маса серадняцкага сялянства бязумоўна павярнула ў бок соцыялізму.

І зараз мы ўжо можам з упэўненасьцю сказаць, што на падставе дырэктыў партыі мы пачынаем выходзіць з цяжкога становішча са збожжам і шчыльна падыходзім да вырашэньня проблемы сыравіны. Чарга за жывёлагадоўляй. Па жывёлагадоўлі мы летась пацярпелі вялізарныя страты дзякуючы кулацкай агітацыі. Уплыў гэтай агітацыі ўзмацніўся перагібамі і скрыўленьнямі, якія мелі месца пры правядзеньні партыйнай політыкі на мясцох.



Паравік, падароны гомельскімі чыгуначнікамі XIII зьезду КП(б)Б.

**Колгасьнікі Самахвалавіцкага раёну перадалі XIII зьезду КП(б)Б у падарунак 6.000 пудоў збожжа. Зьезд вылучыў дэлегацыю ў складзе тт. Сянькевіча, Чарвякова і Крохмаля для адказу на прывітаньне колгасьнікаў.**
**На фото: т. Сянькевіч вітае колгасьнікаў.**

Пры ажыцьцяўленьні правільнага лёзунгу партыі аб ліквідацыі кулацтва як клясы, на базе суцэльнай колектывізацыі, партыйныя організацыі ў радзе месц не мобілізавалі ў дастатковай меры вокал гэтага лёзунгу шырокіх бядняцка-серадняцкіх мас, а ў практычным правядзеньні раскулачваньня часам закраналі і серадняка.

Громкім голасам прадасьцярогі прагучэлі словы зьезду, які ўхваліў політычную і організацыйную лінію ЦК КП(б)Б, адначасова папярэдзіў, што партыя мае даволі сілы, каб ударыць па тых, хто скажае яе правільную ленінскую лінію.

Абапіраючыся на дасягнутыя посьпехі, узмацняючы існуючыя колгасы, падрыхтоўваючы далейшае разгортваньне колгаснага руху на аснове поўнае добраахвотнасьці, мы ў бліжэйшыя гады забясьпечым такі размах разьвіцьця нашае сельскае гаспадаркі, якога мы не маглі сабе ўявіць гады два назад, працуючы па складаньні пяцігодкі. Бальшавіцкі зьезд не замазваў цяжкасьцяй, яны даволі значныя, але нішто ўжо ня можа затрымаць магутны тэмп соц. будаўніцтва. Мы выконваем і перавыканаем нашы пляны, бо пераможны пролетарыят пад кіраўніцтвам партыі Леніна правільна разумее тыя гістарычныя задачы, якія перад ім стаяць.

Мы ўзялі гіганцкія, вялізарныя тэмпы, увесь сьвет зьдзіўлены быў нашымі тэмпамі і прадракаў нам зрыў і катастрофу. Рачаіснасьць паказала, што мы самі недаўлічылі свае сілы, бо ўжо факт, што пяцігодку мы выканаем у чатыры гады, а па некаторых галінах нават у тры гады.

Мы жывем у эпоху вялізарных клясавых зрухаў. Соцыялізм—гэта зьнішчэньне клясаў. Мы зьнішчылі буржуазію. Мы зьнішчаем кулака. Гэткія гістарычнага значэньня факты ня могуць прайсьці бясьсьледна для рэшты соцыяльных пластоў краіны, а таксама і для некаторых груп нават перадавога авангарду—комуністычнай партыі.

Мы ўжо гаварылі пра шкодныя загібы ў справе колектывізацыі. Але ў нашых умовах, калі мы маем значную праслойку дробнай буржуазіі, пры невялікай колькасьці пролетарыяту, існуе асабліва спрыяючая глеба для правых настрояў, для правай небясьпекі, для нацыянал-опортуністычных адступленьняў і скажэньняў. Вельмі востра ў нас разьвіваецца клясавае змаганьне на ідэолёгічным фронце, і асабліва, калі КП(б)Б выступіла супроць нацыянал-дэмократычнай агентуры, якая хацела ўзяць беларускае нацыянальнае пытаньне ў сваё непадзельнае [illegible]ньне і праводзіць у ім сваю супроцьле[illegible] лінію. У працягу даволі вялікага адрэзку часу нацыянал-дэмократы вялі сваё наступленьне на партыю, на яе ленінскую лінію, ня толькі ў нацыянальным пытаньні, але таксама ў зямельным пытаньні, дзе яны праводзілі сваю кулацкую лінію (прышчэпаўшчына), у заходня-беларускім пытаньні (пераклічка з зарубежнымі нацыянал-фашыстымі), у пытаньнях соцыялістычнага будаўніцтва (солідарызацыя з групай Бухарына і іншымі правымі).

Таварыш Гей і Васілевіч у сваіх дакладах даволі дакладна ахарактарызавалі тую барацьбу, якую КП(б)Б правяла з нацыяналістычнымі наскокамі на партыю. Сур'ёзную ідэолёгічную барацьбу партыя правяла з цэлай сыстэмай нацыянал-опортуністычных поглядаў тав. Жылуновіча, які ў найбольш выразнай і закончанай форме адлюстроўваў нациск беларускага контр-рэволюцыйнага нацыянал-дэмократызму, ідэолёгію беларускай буржуазіі і беларускага кулацтва, на пэўныя пласты нашай партыі.

XIII зьезд завастрыў увагу партыі на гэтыя моманты, бо пытаньне барацьбы з нацыянал-опортунізмам ня здымаецца з парадку дню.

Дэлегацыя колгасьнікаў перад Домам Культуры ў Менску вітаюць зьезд КП(б)Б.

# БАЛОТА НА СЛУЖБЕ СОЦЫЯЛІЗМУ







**Т**ОЛЬК тры гады таму, сонная, поўрыбацкая вёска Арэхі, хаваючыся ў кулёх саломы, трывожна прыслухоўвалася да галоднага воўчага скавытаньня. Грузнучы ў балотах, ніхто з вакольных сялян нікелі ня марыў і не гадаў, што на гэтай адвечнай дрыгве, здолее вырасьці горад электрычнасьці, горад культуры, горад будучыні.

Прышлі свае людзі—тыя, што дзесяць год таму ў пастухі хадзілі, у парабкі наймаліся, да сёмага поту гнулі сьпіны ля фабрычных варштатаў на карысьць фабрыкантаў і дармаедаў; прыйшлі тыя — „хто быў нічым і стаў усім“, і сказалі:

— Савецкая ўлада пад кіраўніцтвам комуністычнае партыі адродзіць і перабудуе гэты край! Прымусім балоты працаваць на соцыялізм!

І прымусілі.

На быўшых Асінаўскіх тарфяных балотах 1-га ж







1930 году будзе скончана пабудовай першая беларуская электрычная станцыя імя Сталіна.

У машынным цэху станцыі ўжо стаіць шкілет—першае швэдзкае турбіны. У Швэцыі ўжо скончаны другі турбогенэратар для Асінбуду, які хутка таксама будзе адгружаны.

Асінбуд дасьць электрычную энэргію ў Віцебск і Магілеў, у Дуброўну і Воршу. Заводы і фабрыкі трох акруг БССР атрымаюць танную электраэнэргію для сваіх рухавікоў.

Асінбуд — гэта цэлы гарадок. Гарадок з 5-тысячным насельніцтвам, з электрычнасьцю, вадаправодам, каналізацыяй, поштай, тэлеграфам, клюбамі, бальніцай, лябораторыямі. Ад былой вёскі нічога не засталося.

У Арэхах добра забрукаваны вуліцы, трох і чатырохпаховыя камяніцы, аўтомобілі, масты і добрая шаша. Асінбуд—гэта скок у соцыялістычную будучыню.

# КУЗЬНЯ ПРОЛЕТАРСКІХ СПЭЦАЎ

НАРЫС Л. ВЯСКОЎСКАГА ▪ ▪ ▪ ФОТО УЛ. СЕМЯНЯКІ

Вялізарныя гістарычныя задачы, якія стаяць перад нашай краінай саветаў, могуць быць вырашаны толькі пры пераможным маршы дзесяткаў мільёнаў працоўных, на чале з шматтысячнымі атрадамі пролетарыяту, узброенага рэволюцыйнай тэорыяй і ўсёй злучнасьцю навуковых ведаў мінулае эпохі і нашае сучаснасьці.

Дыктатура пролетарыяту, пад знакам якой намі ажыцьцяўляецца будаўніцтва соцыялізму, азначае ня толькі „ўладу, ня зьвязаную законам", якая апіраецца на організаванае прыдушэньне сілай эксплёатуемых клясаў, але і ўладу, якая апіраецца на навуку і навуковую тэхніку; уладу, якая апанавала ўсім мэханізмам ідэолёгічнага і навуковага ўплыву на вакольную грамаду.

Дыктатура пролетарыяту высоўвае пытаньне аб максымальным апанаваньні пролетарыятам сучаснай навукай, усімі яе дасягненьнямі.

Непасрэднае апанаваньне пролетарыятам навукай ня можа быць заменена выкарыстаньнем навуковых ведаў спэцыялістых з іншых клясаў, ці, пэўней, можа быць заменена толькі часова і толькі часткова.

Падзеі апошніх год лепш усяго давялі правільнасьць гэтага тэзысу на шматлікіх фактах шкодніцтва, выкрытых у нашай прамысловасьці.

Шкодніцтва яшчэ раз цалкам даказала ўсю ненадзейнасьць гэткага становішча, калі навука, тэхніка, тэхнічныя веды амаль цалкам знаходзяцца ў руках людзей, якія выйшлі з іншых клясаў і ня здольных служыць справе пролетарыяту, не двудушнічаючы.

Ужо на другі дзень Кастрычнікавай рэволюцыі, як толькі рабочы прышоў на фабрыку ў якасьці гаспадара, перад ім паўстала патрэбнасьць падрыхтаваць пролетарскую тэхнічную інтэлігенцыю і наогул інтэлігенцыю, якая зможа працаваць на справу соцыялістычнага будаўніцтва і ў прамысловасьці, і ў сельскай гаспадарцы, і ў іншых шматлікіх галінах нашага дзяржаўнага будаўніцтва.

І вось тады, яшчэ ў навальніцу і буру грамадзянскай вайны, зьявіліся рабочыя факультэты. Яны організаваліся ў выніку стыхійнага націску рабочых мас, якія ўласнаю рукою ўзяліся за рэорганізацыю вышэйшай школы і якія пачалі з таго, што некалькі сот лепшых пролетарыяў зрабіліся школьнікамі і пачалі сыстэматычную вучобу.

Пролетарыі прагавіта накінуліся на кніжкі. Прыйшлі маладыя і старыя, былі і такія, у якіх дзеці ўжо вучыліся у сямігодцы і дапамагалі бацьком-рабфакаўцам рашаць задачу, што △ ABC роўны...

У агульнай рабфакаўскай калёне не апошняе месца займае наш Менскі рабфак. Яшчэ ня сьціхлі гарматы пад сьценамі Менску, як у 1921 г. дзесяткі рабочых хлапцоў кінулі варштаты, часова ў кут паставілі стрэльбу і ўзяліся грызьці граніт навукі. Будынак рабфаку,—некалі схаластычная сухая панская гімназія,—набыў новы выгляд, сонныя корпусы абудзіліся, узды хнулі і шумлівыя людзі запоўнілі іх. Сіні дым цыгарак хмарамі пад столяй узьняўся. Парыўчы струмень уносіў сівых школьнікаў у аўдыторыі, дзе яны хацелі апанаваць навукай.

Было цяжка. Нялёгкія былі гады. Зіма 1921-22 году. Цяжка вучыцца, галадна, халадна. Кніг не хапае. Мерзьнеш у рабфэку, прыдзеш на рог Савецкай і Комсамольскай у інтэрнат—таксама мерзьнеш. Атрымлівалі 22 фунты мукі ў месяц. Гэта ўсё, — больш ня было. З гэтых 22 фунтаў трэба было некалькі фунтаў даць на карысьць галадаючых на Волзе. Шмат хто з рабфакаўцаў ня вытрымаў, зьлеглі, хварэлі. Адзін нават памёр а зморы. Некаторыя пачалі адчайвацца, думалі кінуць вучобу. Змагаліся за навуку, як у сапраўднай бойцы. Ішлі, падалі, падымаліся і ізноў ішлі, для таго, каб урэшце дасягнуць мэты — першага выпуску.

Смага да ведаў перамагла голад, холад. Ва ўсіх цяжкасьцях і перашкодах выручаў тварыскі—зьнітаваны комуністычны і наогул рабфакаўскі колектыў. Дамагліся—рабфак пераведзены на вайсковы паёк. Крыху палягчэла. Менш прыходзілася клапаціцца пра ежу, значыцца—памножанымі сіламі—на вучобу.

Ня было калі пролетарыяту песьціць сваю першую школу. Пролетарыяту як клясе яшчэ не да вучобы было. Трэба было аднаўляць гаспадарку, будавацца. Але першыя пролетарскія дзесяткі рабфакаўцаў добра разумелі, што без сваіх пролетарскіх спэцаў нам соцыялізм не пабудаваць, і хоць цяжка было, але ўсё-ж пакідалі варштаты, каб праз нейкі час мець магчымасьць вярнуцца да іх у якасьці чырвоных інжынэраў, тэхнікаў, конструктараў, камандзіраў.

Мінулі гады. Не пазнаць цяпер былы рабфак, як і не пазнаць былую вышэйшую школу. Ледзь ці не рашаючую ролю адыграў рабфак у клясавым складзе нашага студэнцтва. Пролетарызацыя школы дапамагае канчатковаму пэратварэньню яе ў сапраўдную зброю клясавай барацьбы пролетарыяту і ўключэньню яе ў агульную сыстэму сродкаў, пры дапамозе якіх пролетарыят вядзе пераможную барацьбу супроць свайго клясавага праціўніка.

Без пролетарскай школы і асабліва без пролетарскай вышэйшай школы немагчыма хуткае рашучае прасоўваньне ўперад па шляху соцыялістычнага будаўніцтва. І ў гэтым сэнсе — вялізарная роля рабфакаў, якія даюць вышэйшай школе свае падрыхтаваныя кадры з рабочае клясы.

Пролетарызацыя школы заключаецца ня толькі ў соцыяльным яе складзе. Старой вышэйшай школе характарна была глыбокая руціна, акадэмічная зацьвярдзеласьць. Рабфакаўцы ўнесьлі ў школу дух пролетарскай дэмократыі. Не абыйшлося і тут бяз клясавай барацьбы і ў гэтай барацьбе рабфакі заваявалі сваё прызнаньне. Старыя настаўніцкія кадры не змаглі (а часам і не жадалі) замяніць свае мэтоды выкладаньня, якія скаліся ў іх дзесяцігодзьдзямі, яны не змаглі прыстасавацца да рабфакаўскай аўдыторыі, якая ўсё большае месца пачала займаць на унівэрсытэцкіх факультэтах.

Рабфакаўцам прышлося распачаць бомбардыроўку старых пэдагогічных традыцый, патрабуючы аднаўленьня і зьместу і формы. Гэтак узьнікла барацьба за так званыя актыўныя мэтоды выкладаньня (груповыя, лябораторныя, сэмінарскія і іншыя). Паступова перамагаючы акадэмічную закаранеласьць менавіта пад націскам рабфакаўцаў, лепшай часткай настаўні-



Рабфакаўцы рыхтуюць кніжкі для свае падшэфнае вёскі.

кага складу і студэнцтва ўдалося ўрэшце рэволюцыянізаваць мэтодыку выкладаньня ў вышэйшай школе, пахаваўшы старую унівэрсытэцкую сыстэму, калі „прафэсар пачытваў, а студэнт паслухваў“.

Рабфакі прайшлі багаты шлях і маюць у сваім паслужным сьпіску багата героічных эпізодаў пролетарскай барацьбы за школу. У сваіх аўдыторыях Менскі рабфак мае 413 чал., якія вучацца на 4 курсах, у 12 групах выключна на беларускай мове. Апроч таго, на I, II, III курсах ёсьць па адной яўрэйскай групе. Рабфак ужо даў 742 студэнты, шмат з якіх ужо скончылі вышэйшую школу і знаходзяцца на практычнай рабоце. Цяпер на вытворчасьці, у сельскай гаспадарцы, у грамадзкіх і дзяржаўных установах працуе не адна сотня спэцыялістых-рабочых, скончыўшых ВНУ праз рабфак. Штогод колькасьць іх будзе расьці ўсё больш і больш, і ўжо недалёка той час, калі звычайным тыпам спэцыялістага-інжынэра, агранома, доктара, настаўніка будзе той спэцыяліст, які прышоў у ВНУ праз рабфак, які сапраўды робіцца тым каналам, па якому ў жыцьцё ўліваюцца новыя кадры новай пролетарскай інтэлігенцыі.

Тав. Гурло—дэкан факультэту Нар. гаспадаркі БДУ, скончыў унівэрсытэт праз рабфак, т. Ледвіч—дырэктар заводу „Беларусь“, т. Штэйман — старшыня ЦП гарбароў, т. Раготнэр — асьпірант БДУ, т. Валковіч — на адказнай партыйнай рабоце, т. т. Голад, Ярош – дактары, і сотні іншых цяперашніх і будучых чырвоных спэцыялістых, —усе яны прайшлі праз рабфак БДУ.

Бязумоўна, рабфак ня можа задаволіць усе патрэбы вышэйшай школы на пролетарскае студэнцтва. Рабфак падзяліўся на ранішні і вячэрні. У той час, як студэнты ранішняга рабфаку цалкам вызвалены ад работы, атрымліваюць дзяржаўную стыпэндыю і толькі вучацца, вячэрні рабфак складаецца выключна з рабочых, якія ад вытворчасьці не адрываюцца і вучацца ўвечары.

З 1930-31 навучальнага году вячэрні рабфак значна зьмяняе мэтоды і тэмпы сваёй работы. Замест 120 чалавек, якія летась вучыліся на вячэрнім рабфаку, сёлета ўвосень будзе прынята 1000 чалавек. Гэта стварае магчымасьць ня толькі наблізіць рабочых да навукі, але і перанесьці навуку ў гушчы фабрык і заводаў. На буйнейшых Менскіх прадпрыемствах—„Бальшавік“, „Акцябр“, „Энэргія“, „Камунар“—будуць створаны аддзяленьні рабфаку, якія будуць займацца ў дзьве зьмены—ранішнюю і вячэрнюю. Такім чынам рабочыя змогуць вучыцца непасрэдна на сваім прадпрыемстве. Першыя два гады курсанты вячэрняга рабфаку працуюць і вучацца; пераходзячы на трэці курс, яны зусім вызваляюцца ад работы, каб мець магчымасьць скончыць вучобу.

Натуральна, вучыцца і працаваць—цяжка. Шмат хто гаварыў нават, што шкада грошы даваць на вячэрні рабфак, бо нічога ня будзе ад гэтага.

— Ці можна людзям, якія 8 гадзін у дзень займаюцца цяжкай фізычнай працай, займацца яшчэ навукай і рыхтавацца ў ВНУ? Гэта—утопія, дым...

Але час, што мінуў у паласе вялікай работы, і работа для якой не ставала часу, паказалі нягрунтоўнасьць крытыкі, паказалі, што ў нашы фантастычныя часы старая лёгіка большую карысьць прынясе ў крамах Цэрабкопу, каб заварочваць селядцы, чымся ў нашым бурлівым жыцьці.

Людзі, пра якіх гэта гаварылася,—рабочыя і адначасова студэнты рабфаку,—яны перакулілі гэтую лёгіку і думку, быццам героіка і энтузіязм маюць межы. Людзі ў наш час зусім іншыя, чым раней, і стары аршын, якім мерылі раней, зараз ужо ні на якія правы прэтэндаваць ня можа.

Рабфакавец у вучобе—гэта чырвонаармеец у полі. І адзін і другі ведае, што толькі з боем можна дасягнуць канчатковай мэты.

І рабфакавец з боем бярэ цьвярдыні навукі.

Бюджэт студэнта вячэрняга рабфаку часам у 4-5 разоў большы за „ранішніка“. Усё-ж часта можна пачуць:

— „Шчасьліўцы „ранішнікі“. Атрымліваюць 35 рублёў стыпэндыі і могуць, ні пра што ня думаючы, цалкам аддацца вучобе.

Гэта зусім натуральна: програма, курсы аднолькавыя. Згодна новых пастаноў тэрмін навучаньня на рабфаках скарочаны да трох год. У той час, як ранішнікі маюць багата магчымасьцяй ня толькі для вучобы, але нават для ўсебаковага пашырэньня сваіх ведаў, „вячэрнікі“ маюць вельмі мала часу для вучобы.

Вось, прыблізна, працоўны дзень „вячэрніка“. А шостай, ці сёмай гадзіне раніцы яго будзяць на работу. Гудзяць гудкі. Прачынаецца дзень. Рабфакавец сустракае яго, як учора і заўтра. Вып'е гарбаты, кавалак хлеба з каўбасой і а сёмай ён ужо на рабоце. Восем гадзін ён стаіць ля варштата, удзельнічае ў узьняцьці продукцыйнасьці, у социялістычным спаборніцтве цэхаў; у перапынку бегае ў колектыў, у фабком; зьбірае падпіску на журналы ці на пазыку, протэстуе супроць Чэмбэрленаў і Чан-Кай-шы і спрабуе чым-небудзь падсілкавацца. У пяць ён канчае работу і ледзь пасьпеўшы папалуднаваць, сьпяшаецца на рабфак. І зноў таўстым і пальцамі выпісвае ў брудным зашмальцованым сшытку іксы і ігрыкі. І гэтак да паловы дванаццатай, да дванаццатай гадзіны. Покуль дойдзе да хаты, павячэрае, зірне ў газэту,—ужо гадзіна, і гэтак амаль дзень у дзень.

Надзвычайна цяжка. Але вучацца і перамагаюць.

Якая-ж сіла штурхае гэтых людзей на гэткую адвагу? Якая сіла кіруе вадаспадным націскам іх волі?

Мана і хлусьня, што ідуць вучыцца дзеля вялікага заробку ў будучым! Ніколі, дзеля грошай у будучым, чалавек ня пойдзе на калючы шлях мучаніцтва і ня стане з хранічнай пасьлядоўнасьцю аддаваць сваё здароўе і сілы.



У анатомічнай салі. Рабфакаўка за вывучэньнем сыстэмы нэрваў чалавека.

Усякія гутаркі пра кар'ерызм, амэрыканізм і іншы „ізмах“ ня маюць ніякае падставы. Ранішні рабфак, які мае толькі 64 проц. рабочых, а 36 сялян і „іншых“ мо' і мае некаторыя кар'ерысцкія элемэнты. Вячэрні рабфак амаль на 100 проц. пролетарскі. Гэта пролетарскі ліцэй. Тут няма адрыву ад клясы. Кожны студэнт амаль палову дня стаіць ля машыны і ўсе доўгія гады вучобы не парывае з заводам, які паслаў яго вучыцца.

Сакрэт упартасьці і настойлівасьці рабфакаўцаў хаваецца ў тым, што мозг, узрушаны рэволюцыяй, ніяк ня можа задаволіцца сваімі мізэрнымі ведамі. Кожны дзень пролетарскай дыктатуры ставіць рабочую клясу перад новымі пытаньнямі і проблемамі, на якія трэба даць дасканалы і ўсебаковы адказ.

Стыхійная смага да ведаў робіцца амаль фізыолёгічнай патрэбнасьцю. Апэтыт прыходзіць разам з ежай.

І чалавек, які ня мае за сьпіной уласнай культуры, прагна кідаецца ў бяздоннае мора яе і насякаецца ёю, як губка, усёй істотай сваёй.

# ПАД БІЗУНОМ ЦЫВІЛІЗАТАРАЎ

НАРЫС Н. ГАРТА

У нашых газэтах і часопісах, часам у залежнасьці ад палітычных абставін, зьяўляецца карыкатура, якая паказвае „прапаганду Комінтэрна". У большасьці гэта тэма паказваецца ў выглядзе вялікай чорнай рукі-пальчаткі з надпісам „Рука Масквы".

Аб гэтай руцэ і прыпомнілі зараз французскія імпэрыялістыя, калі ў Інда-Кітаі зноў узьнялася рэволюцыйная хваля. Сьмешныя спробы вытлумачыць рух цэлае старонкі падбухторваньнем групкі людзей з Масквы!

Няхай у страсе і шаленстве галосяць французскія буржуі аб сурова-пакаранай пропагандзе. Для іх гэта горш. Яны ня хочуць і ня могуць зразумець, якія вялікія процэсы працякаюць у гэтай колёніі, што доўга зьяўлялася крыніцай багацьцяў для французскіх капіталістых.

* * *

Нездарма так шпарка багацеюць каленіяльныя драпежнікі. Інда-Кітайскі рабочы ў горадзе, а селянін ў вёсцы, літаральна мадзеюць, як жабракі. Аплата працы мясцовага пролетара пры 13—14 гадз. працоўным дню—нікчэмная. Інда-Кітайскія сяляне ў большасьці безьзямельныя і змушаны за арэнду невялікага вучастку аддаваць прыйшлым і мясцовым абшарнікам 50—75% свайго ўраджаю. Не пасільныя падаткі, квотніцкія пазыкі, зусім разараюць няшчасных людзей і прымушаюць іх ісьці ў горад шукаць працы. У Інда-Кітаі, як і ў Кітаі праца надзвычай танная. Але-ж для французскага капіталу гэтага ўжо мала.

Французскі абшарнік хоча мець вялікія прыбыткі і гэтыя прыбыткі павінен даць—хто?—зразумела рабочыя і сяляне колёній.

У апошнія гады французскія банкі і трэсты ўзяліся за распрацоўку прыродных багацьцяў краіны. Значна павялічыўся лік вугальных капальняў, каучуковых плянтацый. Будуюцца новыя чыгункі, пракладаюцца лініі праз новыя абшары. Уціск і бядота колёніяльных нявольнікаў дасягае нябывалае глыбіні. Прыдушаныя масы шукаюць выйсьця і знаходзяць яго ў рэволюцыйным змаганьні.



Зьлева — французскія матросы Кардзье (зьверху) і Сальляс (зьнізу) у часе рэйса ў Індакітай былі западазроныя ў рэволюцыйнай пропагандзе і ўкінуты ў вастрог. Справа—засуджаныя на пакараньне сьмерцю рэволюцыянэры анаміты: Рыейг-Чунг-Кун і Гран-Ван-Кунг (унізе).



Група інда-кітайскіх рабочых.

Першыя рэволюцыйныя грымоты пранесьліся над галовамі французскае ўлады яшчэ 20 год таму назад. У 1908 годзе, у аднэй з пяці провінцый французскага Інда-Кітаю, у Аннаме, з прычыны цяжкага падатковага ўціску і безьзямельля, паўсталі сяляне-анаміты.

„Цывілізаваная" Францыя ў усім сваім „бляску" паказала тады моц свае зброі.

Паўстаньне было сурова прыдушана.

Пасьля сканчэньня імпэралістычнае бойкі, калі французскі капітал з падвойнай энэргіяй пачаў эксплёатаваць колёніяльныя краіны, у Інда-Кітайскай вёсцы зноў пачалося рэволюцыйнае змаганьне, а з 1925 году, амаль ня спыняючыся, коціцца хваля ўзбройнага паўстаньня.

Генэрал-губарнатарам, вышэйшым кіраўніком Інда-Кітаю быў Варэнн, член соцыялістычнай партыі, які толькі часова вышаў з гэтае партыі.

Пад яго „мудрым" кіраўніцтвам у патоках крыві былі затоплены выступленьні Інда-Кітайскіх рэволюцыянэраў, па яго загаду адбыліся шматлікія расстрэлы палонных рэволюцыянэраў. Па яго загаду адбываліся шматлікія арышты, зачыняліся газэты, забараняліся сходы. Люта дзейнічаў колёніяльны соцыял-забойца, прадстаўнік французскае соцыялістычнае партыі.

* * *

1930 год багаты вялікімі рэволюцыйнымі выступленьнямі. Усьлед за Індыяй і Кітаем на шлях змаганьня стаў Інда-Кітай. Шмат якімі бойкамі ўжо кіруе організаваная ў 1928 годзе маладая комуністычная партыя Інда-Кітаю.

Іен-Бэй у студзені гэтага году зрабіўся асяродкам масавых выступленьняў Інда-Кітайскіх рэволюцыянэраў. У радзе мясц 20-міліённае краіны рабочыя і сяляне, узброенныя стрэльбамі і гарматамі, напалі на французскія войскі. Да паўстанцаў далучыліся мясцовыя салдаты. Паўстаньне было прыдушана, але воля да змаганьня засталася жывой.

Сёньня, пасьля некалькіх месяцаў, буржуазныя газэты Францыі зноў поўны трывожных вестак з Інда-Кітаю. Рэволюцыйны рух адразу прыняў выключна масавы характар. Вялікія дэмонстрацыі, у якіх прымаюць удзел жанчыны і дзеці, ідуць зараз па ўсёй краіне. Дэмонстранты ідуць пад чырвонымі сьцягамі, на якіх намалёваны серп і молат і лёзунгі экспропрыяцыі зямлі, выгнаньня французскіх імпэрыялістых і братняга злучэньня з эўропэйскімі салдатамі і матросамі.

Ужо адбыліся сутычкі з войскамі. Ужо налічваецца шмат забітых і вялікая колькасьць параненых. Вайсковае камандаваньне ў Інда-Кітаі па суровасьці расправы з насельніцтвам ня розьніцца ад брытанскіх катаў, якія зараз дзейнічаюць ў Індыі. Французскія вайсковыя гарматавозы і танкі робяць сваю крывавую справу. Нямала вёсак ужо спалена, а жыхароў зьнішчана.

Але-ж французскія рэзыдэнты і мясцовая буржуазія, напалоханая рэволюцыяй, патрабуе новых ахвяр. Некалькі месяцаў таму назад у Інда-Кітайскай буржуазіі выклікаў вялікі гнеў той факт, што ўрад Тардзье пад ціскам шырокай кампаніі французскіх рабочых, якімі кіравала компартыя, запатрабаваў справу 13 рэволюцыянэраў, засуджаных на кару сьмерцю. Французская колёнія ў Іен-Бэе заявіла шумны протэст з прычыны адтэрміноўкі кары. Але дарэмныя хваляваньні сабак, якія прагнуць крыві!

Вельмі скора прысуд быў зацьверджаны адносна 5 абвінавачаных, а 8 чалавек былі сасланы на пажыцьцёвую катаржную працу. Ужо атрыманы весткі аб выкананьні прыгавару.

Пачуліся тры гонгі,—расказвае газэта „Трыбюн Індошын“,—і кат падняў свой палаш (меч). Пры першым удары голаў засуджанага ня ўпала. Няшчасны стаў упрошваць, каб яго дабілі. Тры разы апушчаўся палаш, пакуль ня зрэзаў шыю засуджанага. Так згодна законаў учыняюць расправу над рэволюцыянэрамі французскія „цывілізатары“.

* * *

У пэрспэктыве дзесяткі новых забойстваў.

Паводле вестак з Парыжу палявы суд Інда-Кітаю засудзіў на кару сьмерцю 39 чалавек, 33 да пажыцьцёвае катаргі, 9 чалавек на 20 год катаржнае працы і 5 чалавек да высылкі.

Ёсьць падставы думаць, што гэты сьпіс ахвяр значна большы. Французскі генэрал-губарнатар у Аннаме Жабуйэ хваліўся, што ён яшчэ да пачатку паўстаньня ў Іен-Бэі арыштаваў 400 чалавек комуністых, а пасьля паўстаньня 2.200 чалавек. Аб лёсе сваіх палонных Жабуйэ захоўвае глыбокае маўчаньне.



Дом компартыі ў Інда-Кітаі, разбураны сатрапамі французскага капіталу. Увесь партыйны камітэт арыштаваны.

* * *

На покліч компартыі, 100 тысяч парыскіх рабочых дэманстравалі каля Сьцяны Комунараў сваю солідарнасьць з працоўнымі Інда-Кітаю. Дэманстрацыі і пратэсты адбыліся ў радзе правінцыяльных гарадоў Францыі. Дэманстрацыі ўсюды канчаліся хваляваньнем французскіх і інда-кітайскіх рабочых. Падтрымоўваючы рух протэсту, комфракцыя парляманту патрабавала тэрміновага расьсьледваньня справы. На пасяджэньні палаты адбыліся гарачыя спрэчкі. Як Варэнн у 1925 годзе, соцыял-фашысты паказалі, што яны заўжды гатовы вернымі сабакамі служыць французкаму капіталу. Фальшыва прыкрываючыся словамі аб цывілізатарскай ролі французаў у колёніях, яны шчыра салідарызаваліся з самымі ачмурэлымі рэакцыянэрамі. Яны патрабавалі самай суровай расправы з рэволюцыянэрамі. Французскія соцыялістыя паказалі, што калі-б іх пусьцілі з міністэрскімі портфэлямі, яны былі-б такімі добрымі катамі інда-кітайскага народу, якімі зараз зьяўляюцца члены „рабочага“ ураду Макдональда ў Індыі.

* * *

Змаганьне ў Інда-Кітаі разгараецца.

Аніякія палявыя суды, аніякія кары і катаваньні ня здолеюць выратаваць французскі капітал.

Рана ці позна, разам з кітайскімі ды інда-кітайскімі працоўнымі, разам з сусьветным пролетарыятам, інда-кітайскі народ скіне ярмо сусьветнага імпэрыялізму.

Чырвоныя штандары рэволюцыі ўжо красуюцца над Інда-Кітаем.



# ТАКІ БУДЗЕ ДНІПРЭЛЬСТАН



Агульны выглад станцыі, гаць і шлюзы, якімі яны будуць у 1931 годзе

# ЛІКВІДУЕМ ПРАРЫВЫ



1-га чэрвеня на заводзе „Дрэваапрацоўшчык“ у часе перапынку на абед адбыўся мітынг, прысьвечаны XIII зьезду КП(б)Б і XVI зьезду УсеКП(б). У прынятай рэзалюцыі рабочыя абяцаюцца зьняць завод з чорнае дошкі, ліквідаваўшы прарыў у выкананьні прамфінпляну і аддаць лепшых ударнікаў у партыю.




**У ПЕРШАЕ ПЛАВАНЬНЕ** ◆ У пачатку чэрвеня выходзяць у першае плаваньне новыя савецкія параходы-лесавозы „Аджарыстан“, „Абхазія“, „Грузія“ і „Армэнія“





ТЫПЫ ЯЎРЭЯЎ—КОЛГАСЬНІКАЎ

# ПА ЧЫРВОНАЙ БЕЛАРУСІ



Наладзіць нормальнае забясьпячэньне працоўных мас, мы зможам толькі павялічыўшы жывёлагадоўлю. Поруч са збожжавымі саўгасамі вырастуць дзесяткі і сотні жывёлагадоўчых саўгасаў. Н а з д ы м к у: Каровы чырвонай беларускай пароды ў саўгасе імя Калініна ў Самахвалавіцкім раёне.



Гадоўля птушак у Сеньніцкім саўгасе пад Менскам.



Крахмальны завод у саўгасе Веселова на Барысаўшчыне.



Птушнік у саўгасе ў Сеньніцы.



У комуне Інтэрнацыянал на Барысаўшчыне.

# ПА САВЕЦКІМ САЮЗЕ



Новы клюб-волат для рабочых Грознафты. Клюб мае дзьве глядзельні, магутную радыё-ўстаноўку і рад пакояў для гурткоў.



У Маскве будуецца клюб рабочых комунальнікаў, які гэтым летам канчаткова будзе пабудаваны і абсталяваны.



У Грозным пабудаваны рабочы тэатр.



Фізкультура ў вясковай школе.




Распачалося будаўніцтва „Зялёнага гораду" пад Масквой. У першую чаргу будуць пабудованы готэлі на 800 чалавек. Кожны адпачываючы атрымае асобны пакой. Апрача гэтага сёлета будуць абсталяваны 12 турысцкіх пунктаў.
**На здымку:** макет агульнага памяшканьня для сна.

# Кніжная вітрына

**М. ВАСКАБОЙНІКАЎ і А. КУРЦІК.**— На барацьбу за прамфінплян. БДВ Менск, 1930 г. 145 стар. Цана 20 кап.




Гэта брошура М. Васкабойнікава і А. Курціка зьяўляецца апрацоўкай іх дакладаў, якія былі зроблены на першай усебеларускай нарадзе рэдакцыйных калегій фабрычна-заводзкіх друкаваных газэт.

Брошура ў асноўным прысьвечана ролі фабрычна-заводзкага друку ў барацьбе за прамфінплян, за выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады.

Мэта брошуры—памагчы работнікам фабрычна-заводзкіх друкаваных газэт у іх барацьбе за прамфінплян, а таксама прыцягнуць увагу самых шырокіх колаў усёй пролетарскай грамадзкасьці да таго вялізнага значэньня, якое маюць фабрычна-заводзкія друкаваныя газэты.

Цана кніжкі ўсяго 20 кап., павінна дапамагчы яе шырокаму распаўсюджваньню.

---

**Г. КРЖЫЖАНОЎСКІ.** — Дзецям пра пяцігодку. 35 стар. Цана 6 к.

**А. СЕВЯР'ЯНАВА.**—За комуністычнае выхаваньне дзяцей. 32 стар. Цана 10 кап.




**Е. МАГІДОВІЧ.**—З каго браць прыклад. 22 стар. Цана 15 кап.

Нашы піонэрскія організацыі і школы да апошняга часу ня мелі адпаведнай літаратуры на беларускай мове. Новая Белдзяржвыдавецтва. „Бібліотэка піонэрскага атраду“ з большага запаўняе гэты недахоп.

Кніжачка Кржыжаноўскага зьяўляецца пераказам яго прамовы на 1 Усесаюзнай конфэрэнцыі юных піонэраў аб пяцігадовым пляне.

„За комуністычнае выхаваньне дзяцей“ Севяр'янавай, аднаго з актыўных работнікаў дзіцячага комуністычнага руху, намячае асноўныя моманты клясавага комуністычнага выхаваньня, выпукляючы політычнае значэньне росту піонэрорганізацыі.

Кніжачка Магідовіч знаёміць з практыкай работы піонэрбазы на заводах імя Леніна ў Саратаве. Яна расказвае як піонэры самі, сваімі сіламі ўзяліся і організавалі вялізарную і важную работу, прыцягнуўшы ўсю рабочую масу, усю дзятву гораду на дапамогу сабе.

---

**„Комсамол за сілос“.**—Вясковы сэктар ЦК ЛКСМБ. БДВ, Менск, 1930 г. 29 стар. Цана 5 кап.

**І. М. СЕРАДА.**—Пабудова сілосаў у колгасах і саўгасах. БДВ, Менск, 1930 г. 52 стар. Цана 20 кап.




**І. М. СЕРАДА.**—Тэхніка сіласаваньня і кармленьне жывёлы сілосам. БДВ, Менск, 1930 г. 50 стар. Цана 25 кап.

Студзеньскі плепум ЦК КП(б)Б паставіў перад краінай баявую задачу рашучага паляпшэньня жывёлагадоўлі як па лініі павялічэньня стада, так і па лініі палепшаньня яго якасьці.

Разьвіцьцё буйнай жывёлагадоўлі, якое ва ўмовах БССР мае асабліва вялікае гаспадарча-політычнае значэньне, шчыльна ўпіраецца ў кармовае пытаньне. Толькі тады калі належным чынам будзе організавана кармавая база, можна будзе з посьпехам выканаць заданьне пленуму ЦК.

Сілос напалову вырашае гэту задачу, таму сіласаваньне кармоў павінна адыграць рашаючую ролю ў вырашэньні кармавой проблемы.

Зусім своечасовым зьяўляецца выданьне шэрагу кніжак на гэту тэму.

„Комсамол за сілос“—дае дырэктыўныя матэрыялы. Дзьве брошуры Серады досыць популярна знаёмяць з пабудовай сілосаў, тэхнікай сіласаваньня і з кармленьнем жывёлы сіласам.

---

**А. СЕРАФІМОВІЧ.** — Вераб'іная ноч (апавяданьні). пераклад А. Гародні. БДВ, Менск, 1930 г. 135 стар. Цана 45 кап.




Наша Дзяржвыдавецтва апошнія часы пачало выдаваць цэлы шэраг перакладаў лепшых расійскіх, украінскіх і замежных пісьменьнікаў.

Кніжка вядомага расійскага пісьменьніка А. Серафімовіча, аўтара „Железного потока“, якую выдала наша БДВ, зьмяшчае шэраг апавяданьняў, напісаных перад рэволюцыяй.

Апавяданьні, у пераважнай большасьці, малююць жыцьцё дзяцей. Хлопчык-перавозьнік праз рэчку, маленькі шахтар, хлопчык з цырульні—вось тыпы гэтых апавяданьняў.

У шэрагу іншых твораў аўтар паказвае нам „пакрутчыка“ Сароку, якога занесла ў мора крыга, сцэпніка Макара, якога выкідаюць з работы за „ненагінасьць“ да начальства. У апав. „На Прэсьні“ даецца малюнак барацьбы царскага самаўладзтва з паўстаўшымі рабочымі ў 1905 г.

Малюнкі нядаўняга мінулага, малюнкі жорсткай эксплёатацыі дзяцей, самавольства розных царскіх урадаўцаў, яскрава паказаныя ў гэтай кніжцы, прымусяць чытача яшчэ больш любіць нашу сучаснасьць і змагацца за яе, напомніўшы яму аб тым, што зьнішчана Кастрычнікам.

„Бібліотэка піонэрскага атраду“ БДВ, Менск, 1930 г.

Малюнак Б. Дзясьніцкага




**НОВЫ ЗБАВІЦЕЛЬ**

Капіталісты (да беспрацоўнага): Будзьце цярплівы, будзьце спакойны і Томас зратуе Вас...

Выданьне Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва    Адказны рэдактар МІХАСЬ ЧА

На 2-е ПАЎГОДЗЬДЗЕ 1930 г. На 2-е ПАЎГОДЗЬДЗЕ 1930 г.

# ПРАЦЯГВАЕЦЦА ПАДПІСКА

## НА ЎСЕ ВЫДАНЬНІ БЕЛАРУСКАЙ ПЭРЫЯДЫКІ

| Назва выданьняў | Характар | Пэрыядычнасьць | Умовы падпіскі: 1 м-ц | | 3 м-цы | | 6 м-цаў | | 1 год | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Бальшавік Беларусі . . . | Орган ЦК КП(б)Б. | Штомесячн. | — | 35 | 1 | 05 | 2 | 10 | 4 | 20 |
| Партыйны работнік . . . | „ „ „ | Двухтыднёв. | — | 25 | — | 75 | 1 | 50 | 2 | 75 |
| Іскры Ільліча . . . . . | Орган ЦК ЛКСМБ | Штомесячн. | — | 15 | — | 45 | — | 90 | 1 | 80 |
| Бюлетэнь СНК . . . . . | Орган СНК БССР | Па накаплен. матэрыял. | — | — | — | — | 2 | 50 | 5 | — |
| Маладняк . . . . . . | Літ.-мастацк. час. | Штомесячн. | — | 30 | — | 90 | 1 | 60 | 3 | — |
| Узвышша . . . . . | Літ.-мастацк. і крытыкі | На год 10 нум. | — | — | — | — | 3 | — | 5 | — |
| Сельская і лясн. гаспадарка | Орган Інстытуту імя Леніна | На год 6 нум. | 2 | — | — | — | 2 | 50 | 5 | — |
| Савецкае будаўніцтва . . | Орган Дзяржпляну | Штомесячн. | — | — | 2 | — | 4 | — | 7 | 50 |
| Паляўнічы Беларусі . . . | Орг. Белпрамкооп-саюзу Паляўнічых | Штомесячн. | — | 30 | — | 70 | 1 | 20 | 2 | — |
| Беларуская работніца і сялянка . . . . . . | Орган жанаддзелу ЦК КП(б)Б | Двухтыднёв. | — | 15 | — | 45 | — | 90 | 1 | 80 |
| Збор законаў і загадаў. . | н ЦЕК ЕССР | У 2-х аддз. | — | — | — | — | 5 | — | 10 | — |
| Шляхі калектывізацыі . . | „ НКЗ і Белкалгассаюзу | Штомесячн. | — | 20 | — | 60 | 1 | 10 | 2 | 20 |
| Комуністычнае выхаваньне. | Орган НК Асьветы | „ | — | 80 | 2 | 30 | 4 | 50 | 8 | — |
| Наш край . . . . . . | Орган ЦБ Краязн. | „ | — | 50 | 1 | 25 | 2 | 25 | 4 | — |
| Штэрн . . . . . . | Яўр. літар.-мастац., палітычн. часопіс | „ | — | 60 | 1 | 50 | 3 | — | 6 | — |
| Часопіс „ПОЛЫМЯ“ . | Літар., політ., экономіка і крытыка | „ | 1 | — | 3 | — | 5 | — | 10 | — |
| Часопіс „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“ | Мастацка-ілюстрав. часопіс | Двухтыдн. | — | 30 | — | 75 | 1 | 50 | 3 | — |

Гадавым падпішчыкам даецца растэрміноўка на часопіс „Полымя“: пры падпісцы—4 р., 1-га верасьня—3 р., 1-га лістапада—3 р.

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА**: Бюро Падпіскі БДВ, Ленінская, 19, тэл. 17-12; Цэнтр. Кнігарняй, Ленінская, 19, тэл. 95; Усімі акруговымі аддзяленьнямі БДВ; Газэтным Бюро; Аддзелам Падпіскі ГІЗ'а РСФСР і ўсімі нашымі ўпаўнаважанымі, маючымі адпаведныя пасьведчаньні.

БЕЛДЗЯРЖВЫДАВЕЦТВА.

# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ



| 24 НУМАРЫ НА ГОД | ІЛЮСТРАВАНАЯ ДВУХТЫДНЁВАЯ ЧАСОПІСЬ<br>Адказны рэдактар М. ЧАРОТ<br>Адрас рэдакцыі: Савецкая, 79. | 24 НУМАРЫ НА ГОД |
|---|---|---|

**ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ** высьвятляе ў мастацкім слове і багатай ілюстрацыі рост і разьвіцьцё соцыялістычнага будаўніцтва БССР і ўсяго Савецкага Саюзу, рэконструкцыю народнае гаспадаркі, посьпехі індустрыялізацыі і колектывізацыі сельскай гаспадаркі, шляхі культурнае рэволюцыі.

**ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ** знаёміць чытача з рэволюцыйнымі падзеямі ўсяго сьвету, а таксама і з важнейшымі зьявішчамі сусьветнай экономікі і культуры.

**ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ** зьмяшчае: апавяданьні, вершы, нарысы, падарожжы, фэльетоны, артыкулы з політычнага, экономічнага, культурнага і мастацкага жыцьця, мастацкія навінкі, ілюстрацыі, рэпродукцыі карцін выдатнейшых мастакоў, а таксама гумарэскі, пародыі, старонкі сатыры і гумару з адпаведнымі шаржамі і карыкатурамі.

**ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ** адлюстроўвае ўсё бягучае жыцьцё мастацтва як савецкага, так і сусьветнага, найбольш буйныя зьявішчы літаратуры, тэатру і кіно.

## ПАДПІСНАЯ ЦАНА на 1930 год

| На год | | На 6 м-цаў | | На 3 м-цы | | ЦАНА АСОБНАГА НУМАРУ 15 К. |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 3 р. | — | 1 р. | 50 к. | — | 75 к. | |

**ПАДПІСКУ ПРЫМАЮЦЬ:** Бюро падпіскі БДВ (Менск, Ленінская, 19), Цэнтральная кнігарня БДВ, усе акруговыя аддзяленьні БДВ, кнігарні ЦРК, кіёскі контрагенцтва друку, Беларускае газэтнае бюро, усе паштовыя аддзяленьні, усе лістаносцы як у гарадох, так і ў вёсках, і асобы, якія маюць пасьведчаньні.

**Час. „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“ прадаецца ўва ўсіх кнігарнях БДВ, ЦРК, кіёсках контрагенцтва друку і выд. „Праўда“, чыгуначных і пашт. кіёсках, газэтаносцаў ува ўсіх гарадох і мястэчках БССР.**

Менск, друк. БДВ, зак. 894. Галоўлітбел

